3/13




# Czasopis

*Białoruskie pismo społeczno-kulturalne, poświęcone zagadnieniom współczesności, historii, literatury i sztuki, miejsca człowieka w świecie.*

*Nr 3 (262). Сакавік – marzec 2013. http://czasopis.pl* ■ *Cena 5 zł (w tym 5% VAT)*

17-га лютага памёр Сакрат Яновіч. Пражыў 76 гадоў. Адышоў ад нас чалавек вялікага маштабу – выдатны Беларус, прызнаны літаратар, інтэлектуал, філосаф. *Чыт. на стар. 3-9 і 16-30.*



**Св. пам. Сакрат Яновіч (4.09.1936 – 17.02.2013) Канец 1950-ых гадоў...** (str. 23)



**Igor Newerly przyszedł na świat 24 marca 1903 roku w osadzie Zwierzyniec. Jest to nieduży kompleks budynków, położony w połowie drogi z Hajnówki do Białowieży. Każdego dnia przejeżdżają w ich pobliżu dziesiątki, a w sezonie turystyczny...** (str. 40)



**Нарадзіўся ён у 1931 годзе ў вёсцы Новы Свержань на Стаўбцоўшчыне. Скончыў аддзяленне беларускай і рускай мовы і літара...** (str. 43)



*Фота на вокладцы з хатняга архіва св. пам. Сакрата Яновіча*



# *Юрка Хмялеўскі*

***Ад Рэдактара***. Прыйшлося развітацца нам з чалавекам абсалютна вялікага фармату. Бо Сакрат Яновіч – гэта безумоўна феномен нашай эпохі. З зямнога свету адыходзіць у вечнасць выдатная постаць беларускае – найперш – культуры, літаратуры, гуманіст і філосаф. Майстар слова. Сапраўды быў Ён вялікай індывідуальнасцю, на што паўплываў мабыць і выбар маці Аляксандрай Яму незвычайнага імя грэчаскага філосафа, што жыў дзве тысячы пяцьсот гадоў таму.

Аднак, невыпадкова якраз крынкаўская зямелька кагосьці такога выдала на Божы свет. Бо і зямля тут незвычайная – проста магічная, чароўная і надта багатая ў падзеі. Да сёння гэта ёсць быццам цудам уцалелая ўскраіна даўняга Вялікага Княства Літоўскага, а Сакрат Яновіч быў апошнім грамадзянінам той старабеларускай дзяржавы.

А ўсё пачалося каля шасцісот гадоў таму, калі прыблізна ў гэтую пару, бо на пераломе студзеня і лютага 1434 года з'ехалі ў Крынкі польскі кароль Уладыслаў Ягайла і літоўскі князь Жыгімонт Кейстутовіч, каб абмеркаваць справы самага тады вышэйшага значэння для Кароны і Літвы. Сакрат Яновіч гаварыў нават, што ў Крынках і на Падляшшы пачыналася стварацца – тады ўжо – сённяшняя Еўропа.

Сакрат Яновіч адыходзіць ад нас у 2013 годзе – годзе, у якім адзначаюцца дзве круглыя гістарычныя гадавіны. Сённяшняе Падляшскае ваяводства вясною будзе святкаваць сваё 500-годдзе. Крынкі, праўда, у мінулым не знаходзіліся ў яго межах, бо тут – гістарычная Літва, і развіваліся яны як горад паблізу найперш Гродна. Але сюдою вяла жа дарога з Кракава ў Вільню. Крынкі сімвалічна спалучалі затым Літву і Карону, а каралі і князі са світай спыняліся тут на адпачынак у дарозе. Заязджалі сюды і знакамітыя Хадкевічы з суседняга Гарадка.

У гэтым годзе адзначаем таксама 150-тую гадавіну Студзеньскага паўстання. Узвышша непадалёк могілак крынчане да сёння называюць Шыбельніца. Тут у 1863 годзе трагічна закончылі жыццё тыя, якія ў роспачы кінуліся былі на Маскву, каб адваёўваць Польшч. 20 кіламетраў ад Крынак, у маёнтку Мастаўляны прыйшоў на свет правадыр „мятежу" на Літве, Кастусь Каліноўскі. Гэты народнік уславіўся тым, што рэдагаваў і выдаваў першую беларускую газету „Мужыцкая праўда".

Незвычайнасці свайго месца нараджэння Сакрат Яновіч быў свядомы аж надта. Гэтая тоеснасць засеяла ў Яго душы вялікую любоў да роднага і родных Крынак. І роднаму заставаўся верны ўсё жыццё. Яго найвялікшай любоўю была беларускасць. Любоў да беларускага слова і беларускай культуры з усяго сэрца ўкладаў у сваю геніяльную літаратурную творчасць і грамадскую дзейнасць. Закаханы ў родным слове склаў нават малітву:

*Беларускае слова, ты мая айчына! (...)*

*Я табе (...), слова ты маё беларускае, веру ды кланяюся.*

*Бог ты мой!*

*Ты мая рэлігія!*

Сакрат Яновіч пакінуў трывалы след у культуры і літаратуры двух народаў – беларусаў і палякаў. Гэтую паралельнасць сімвалічна паказваюць дзве друкавальныя машынкі ў Яго кабінеце ў Яго магічным доме па вуліцы Сакольскай 9 у Крынках – адна кірылічная, другая з лацінскім шрыфтам. А кабінет сарыентаваны яшчэ вокнамі на Еўропу. Бо тое, што зрабіў Сакрат Яновіч, мае ўжо еўрапейскае значэнне. Паўплывалі на гэта найперш прыдуманыя Ім Беларускія трыялогі і штогоднік „Annus Albaruthenicus – Год беларускі" з удзелам заходніх творчых людзей.

Зямля, нават такая незвычайная як магічная крынская краіна, вельмі рэдка выдае на свет так значных і таленавітых людзей. Такога чалавека, як Сакрат, больш не будзе, Ён быў непаўторны.

І толькі цяпер мы адчуем вялікую страту, калі няма ўжо з намі такога аўтарытэту, такой асобы, сімвалу нашай беларускасці.

Ад імя Фонду Віла Сакратас і ад сябе хачу перадаць шчырыя словы спачування Сям'і – жонцы Таццяне, брату Аляксандру, сынам ды ўнукам. Нам усім цяпер Сакрата Яновіча будзе вельмі не хапаць як аўтарытэтнай і кампетэнтнай асобы ў самых прынцыповых справах, а найперш – як вартаўніка гістрычнай памяці і тоеснасці зямлі, дзе жыў, змагара за беларускасць і беларускую, польскую і еўрапейскую культуру.

Спадар Сакрат, Вы ўжо ў вечнасці. Цяпер урэшце дадзенае Вам будзе сустрэцца і паразмаўляць з

тымі, што на працягу мінулых стагоддзяў рабілі вялікую справу пад Знакамі Арла і Пагоні. Вы добра Іх усіх спазналі ці то з кніжак, ці то асабіста, і сваёй творчасцю прыблізілі гэтых герояў сучасным людзям. Але добра ведаю, што будзецьме яшчэ пра многае з Імі пагаварыць і шмат што абмеркаваць. З успомненым Ягайлам, князем Вітаўтам, з Францішкам Скарынай, Міколам Гусоўскім, Янкам Купалай, Якубам Коласам, Францішкам Багушэвічам, Максімам Багдановічам, братамі Луцкевічамі і іншымі героямі адраджэння беларушчыны, што ўзнялі бел-чырвона-белыя сцягі. Таксама з тымі, якіх спаткалі пры жыцці – Васілём Быкавым, Ларысай Геніюш, адыйшоўшымі раней сябрамі з БГКТ, „Нівы”, літаб’яднання Белавежа і ўсяго беларускага асяроддзя на Беласточчыне. І не толькі з беларусамі, бо і Ежы Гедройцам, Чэславам Мілашам, нават бласлаўлёным рымскім папам Янам Паўлам ІІ-гім. І многімі-многімі роднымі і знаёмымі з Крынак, Беласточчыны, Польшчы, Беларусі і Еўропы. З усімі імі і з Госпадам Богам будзеце маглі цяпер пагаварыць пра найважнейшае. Пра – Ісціну і Праўду.

Вы, Спадар Сакрат, не дарэмна пражылі жыццё. Ведайце, што патомныя шануюць і будуць шанаваць Вас за гэта. Як паслядоўнікі вялікай справы. Няхай родная крынская зямелька будзе для Вас мяккім пухам!

*Вечная памяць!*

*Надмагільная прамова, 21 лютага 2013 г. на праваслаўных могілках у Крынках.*



## Ян Максімюк

***Сакрат Яновіч: Канец клясычнай эпохі.*** Ня помню дакладна: недзе пад канец мінулага стагодзьдзя або ўжо ўпачатку гэтага наладзілі аўтаматычную тэлефанічную сувязь сьвету з Крынкамі, у якія ў сярэдзіне 1990-х вярнуўся зь Беластоку ў родны дом Сакрат Яновіч. Тады стала магчыма пазваніць пісьменьніку наўпрост; раней трэба было званіць на крынкаўскую пошту і прасіць, каб вас злучылі зь ім уручную. Калі я першы раз пазваніў Сакрату наўпрост і павіншаваў яго з гэтым поступам цывілізацыі ў ягонай ваколіцы, ён сказаў: «Разумееш, нарэшце і Крынкі ўступілі ў дваццатае стагодзьдзе».

Сакрат Яновіч гаварыў так, як і пісаў свае славутыя мініяцюры-сакрацікі – нешматслоўна, зь любоўю да ўчэпістых дэталяў, з эпіграматычным ухілам. Калі ў 1993 годзе мы зь ім складалі для выданьня ў Беластоку ягоную новую кніжку прозы – «Доўгая сьмерць Крынак» – я запытаў, адкуль у яго такая схільнасьць да сьцісласьці і нешматслоўнасьці ў прозе. У каго ён гэтаму вучыўся – ці не ў Гэмінгуэя, напрыклад? «Гэта ў першую чаргу ад майго заіканьня. Я – заіка ад дзяцінства, і ўсе мае аднагодкі калісьці мяне дражнілі. Я змагаўся з заіканьнем тым, што стараўся гаварыць як мага карацей. Каб выказаць думку яшчэ перад тым, як пачну заікацца і мяне заклінуе», – адказаў мне Сакрат з хітраватай усьмешкай. Гэта была ягоная тыповая рэакцыя на сьвет – іронія і самаіронія. Ён не баяўся пакепліваць зь іншых, але адначасова мог пасьмяяцца і з самога сябе. Ды паколькі ён разумеў, што пра Гэмінгуэя я пытаюся зусім сур’ёзна, ён мне тады яшчэ адказаў, што, маўляў, так, стыль Гэмінгуэя яму падабаецца, але сваімі літаратурнымі настаўнікамі ён лічыць Антона Чэхава і Ісаака Бабеля. З бабелеўскай «Канарміі» ён ведаў на памяць цэлыя старонкі. Мне прыгадваецца адзін вечар у рэдакцыі тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку, калі мы завяршылі працу над складаньнем і рэдагаваньнем «Доўгай сьмерці Крынак», і Сакрат, пасьля келіха віна, бутэльку якога я прыхапіў з сабою дзеля такой нагоды, стаў мне чытаць з памяці доўгія фрагмэнты бабелеўскіх апавяданьняў.

Сакрат Яновіч стаяў ля вытокаў той сягоньня ўжо неверагоднай эпохі ў гісторыі беларусаў Беласточчыны, калі ў 1956 годзе ў Беластоку ўзьнік беларускі тыднёвік «Ніва» і ў больш за сотні нашых вёсак пачалося навучаньне беларускай мовы. Ён прыйшоў працаваць у «Ніву» ў пачатку яе існаваньня, калі насамрэч усе на Беласточчыне яшчэ толькі вучыліся пісаць па-беларуску. У 1958 годзе, як адзін з тых, хто найхутчэй навучыўся граматна і культурна пісаць на беларускай мове, ён стаў заснавальнікам Беларускага літаратурнага аб'яднаньня «Белавежа». Працаваў журналістам у «Ніве», дзе пісаў усялякую журналісцкую падзёншчыну, але час ад часу публікаваў і нешта вартае большай увагі, на літстаронцы «Белавежы», якая ў той час зьяўлялася ў беларускім тыднёвіку рэгулярна раз на месяц. У 1969 годзе, калі яму было 33 гады, выйшла ягоная першая кніга – мініяцюры і апавяданьні пад назовам «Загоны». Зь сёньняшняй пэрспэктывы асабліва выразна відаць, што была гэта гістарычная дата, нешта накшталт часавага водападзелу ў беларускай літаратуры ў Польшчы. Да зьяўленьня «Загонаў» у нас на Беласточчыне мы мелі толькі вершы – прытым, зусім неблагія і паводле сёньняшніх мерак, як, прыкладам, зборнік «Жнівень слоў» Алеся Барскага з 1967 году – але Сакрат Яновіч першы паказаў, што ў нас можа быць і першаклясная беларуская проза. Беларуская літаратура ў Польшчы, якая нарадзілася ўсяго дзясятак гадоў перад публікацыяй «Загонаў», з гэтай кніжкай увайшла ў пэрыяд свайго сталеньня.

Потым у жыцьці Сакрата Яновіча сталася нешта не да канца ўсім зразумелае. У пачатку 1970-х яго звольнілі з працы ў «Ніве», выкінулі з партыі як «беларускага нацыяналіста» і пастараліся, каб доўгі час ён ня мог знайсьці ў Беластоку прыстойнай працы. З чалавека, які ў 1960-х належаў да эліты беларускага руху ў Польшчы і быў калі ня ў самым яго цэнтры, дык недзе зусім блізка, Сакрат Яновіч раптоўна стаўся грамадзкім аўтсайдэрам. Ён ня кінуў пісаць, але яго цяпер публікавалі адно ў Варшаве, у польскіх перакладах. Пасьля «Загонаў» з 1969 году наступнай кніжкай па-беларуску, якая выйшла ў Беластоку, была згаданая мною «Доўгая сьмерць Крынак» з 1993 году. Сакрат Яновіч у 1970-х і 1980-х, можна сказаць, быў грамадзкім аўтсайдэрам, але надалей заставаўся ў інтэлектуальнай эліце. Ну бо ж сапраўдная эліта складаецца якраз з сапраўдных грамадзкіх аўтсайдэраў...

Адно праз амаль 40 гадоў мы даведаліся, што Сакрат Яновіч у 1970 годзе выблытаўся з супрацоўніцтва з польскай спэцслужбай, у якую ўблыталі яго, 21-гадовага дзецюка, хітрыя польскія чэкісты, якія гаварылі на беларускай мове і апэлявалі да ягонага беларускага пачуцьця...

1980-тыя з палітычна-інтэлектуальным адраджэньнем, выкліканым «Салідарнасьцю», былі вельмі плённым і актыўным пэрыядам для Сакрата Яновіча. Падпольна ён выдаваў «Беларускія дакумэнты», пішучы нязвыклай для беластоцкіх беларусаў лацінкай, а ў польскіх часопісах публікаваў у фрагмэнтах нарыс па гісторыі Беларусі і беларускай ідэі пад назвай «Białoruś, Białoruś». Нарыс выйшаў кніжкай у 1987 годзе ў выдавецтве «Iskry», стаючыся адным з найцікавейшых тагачасных выданьняў у Польшчы. Кніжка стала настольнай для ўсіх польскіх публіцыстаў, якія спрабавалі пасьля Яновіча пісаць пра польска-беларускія дачыненьні і сувязі.

У 1989 годзе, на часткова свабодных парлямэнцкіх выбарах, Сакрат Яновіч пагадзіўся стаць кандыдатам у Сэнат ад Беларускага выбарчага камітэту. А пасьля выбараў, нягледзячы на тое, што ў той час ён пачаў выразна недамагаць ад сур'ёзнага захворваньня на дыябэт, Сакрат Яновіч з душою і галавою кінуўся ў нашу найбольшую авантуру таго пэрыяду – арганізаваньне палітычнай беларускай партыі ў Польшчы (Беларускага дэмакратычнага аб'яднаньня) ды наладжваньне палітычных і гаспадарчых сувязяў Беласточчыны з далукашэнкаўскай Беларусьсю.

У сярэдзіне 1990-х Сакрат пакінуў Беласток і пераехаў у Крынкі, у бацькоўскі дом, які калісьці сам аднавіў і перабудаваў. Пасьля гарадзкой мітусьні яму быў патрэбны спакой, таксама і дзеля здароўя. Але няўрымсьлівы характар не дазволіў яму сядзець са складзенымі рукамі. У Крынках Сакрат, пры дапамозе рэдактара «Часопіса» Юркі Хмялеўскага і мастака Лявона Тарасэвіча, заснаваў фонд «Villa Sokrates» і штогод, цягам першага дзесяцігодзьдзя ў нашым новым стагодзьдзі, арганізаваў у агратурыстычным цэнтры каля Крынак летнія сустрэчы пісьменьнікаў, перакладчыкаў і акадэмічных дасьледчыкаў, якія цікавіліся Беларусьсю і беларускімі пытаньнямі. Сустрэчы называліся «Беларускімі трыялёгамі» – як правіла, на іх зьбіраліся людзі з «трох старон»: Захаду, Польшчы і Рэспублікі Беларусь, – і ім кожны год спадарожнічала выданьне зборніка літаратурных і дасьледніцкіх матэрыялаў пад назовам «Annus Albaruthenicus».

Сакрат Яновіч быў і застаўся да канца беларускім асьветнікамтрадыцыяналістам: у кантактах з удзельнікамі сваіх трыялёгаў ён карыстаўся звычайным ліставаньнем па пошце і тэлефонам. Кампутара ня меў і ніякай электроннай пошты ня ведаў. То бок, калі мне трэба было апублікаваць нешта ў ягоным зборніку «Annus Albaruthenicus», я раздрукоўваў свой тэкст на паперы і пасылаў яго Сакрату ў Крынкі ў звычайным канвэрце. А электронны файл я пасы-

лаў Юрку Хмялеўскаму, які займаўся тэхнічным бокам выдавецкай справы фонду «Villa Sokrates».

Калі ў Фэйсбуку я ўбачыў паведамленьні аб сьмерці Сакрата Яновіча і «лайкі» пад некаторымі з гэтых паведамленьняў, мая першая думка была прыблізна такая: вось памёр адзін з апошніх прадстаўнікоў нашай клясычнай нацыятворнай эпохі, якая сваімі каранямі сягае нашаніўскай пары ці нават яшчэ ранейшага часу, беларускага асьветніцтва XIX стагодзьдзя пасьля студзеньскага паўстаньня...

Гэты чалавек ніяк ужо не пасуе да калясальнага постмадэрністычнага сьметніку, якім сталася сучасная культура ў інтэрнэце і сацыяльных сетках. Ён увесь застаўся ў кніжках, у слове, друкаваным на паперы. Вось у такім, напрыклад:

*Не зразумець мне, дзеля чаго жывуць у Крынках людзі. Даўным-даўно павінна іх ня быць: урослыя ў зямлю будынкі й размытыя вуліцы тут будуць укрытыя сьвяжуткімі бярэзьнічкамі, грыбнымі пералескамі. Пушча атуліць непатрэбную ў капіталізм ваколіцу. (...) Позьніцца прыход сюды новай цывілізацыі гораду й лесу. Вінаватыя ў гэтым, вядома, палякі, перабіраючыся ў пакінутае беларусамі фэадальнае староньне. Бессэнсоўна яны мяркуюць, што хоць у Крынках, гэтым пасьляхалопскім цені гораду, можна выжыць... А ў іх жа магчыма толькі ціха памерці.*

Зямля табе пухам, Сакраце.

*Svaoda.org, 18 лютага 2013 г.* ■



## *Кастусь Бандарук*

***Эпітафія Сакрату Яновічу***. Як казаў Яцэк Курань, Сакрат Яновіч быў чалавекам, які „паказваў беларусам шлях да захавання ўласнай тоеснасці і да блізкасці з палякамі”. Яшчэ некаторыя называюць яго „пісьменнікам абодвух народаў”. Аднак да гэтай характарыстыкі многія могуць дадаць шмат іншага і асабістага.

Смерць Сакрата Яновіча глыбока мяне засмуціла і адразу выклікала дакор сумлення. Мы сустракаліся з ім нават за акіянам, а будучы цягам апошніх чатырох гадоў гэтак блізка адзін аднаго, не знайшлося ў мяне магчымасці ці нагоды наведаць яго, пагутарыць, як гэта мы хоць і з паўзамі рабілі цягам 45 гадоў. Мы землякі і нават далёкія сваякі. Сакрат – мой настаўнік і духаўнік у творчым сэнсе. Мы сустрэліся з ім упершыню на фэсце ў Востраве на Успенне, як у нас кажуць: на „Зелну”. У мяне была нейкая незразумелая, юнацкая дэпрэсія. Я пісаў у „Ніву” першыя вершы, з якіх прасочвалася роспач, ці як мінімум крайне ўпадніцкі настрой. Ён сустрэўся тады са мною, каб падбадзёрыць мяне. Аднак не кажу, што гэта ён прышчапіў мне беларускасць, бо не было такой патрэбы. Яна была ў душы і без яго. Аднак Сакрат падахвочваў як мага болей пісаць, даваў парады, хваліў асабліва за паэтычныя мініяцюры, у якіх ён сам спецыялізаваўся. Мне на ўсё жыццё запамяталася ягоная фраза: „каб добра пісаць трэба сябе адчуваць нешчаслівым”. Зрэшты так і было, што муза вярталася да мяне толькі ў цяжкія хвіліны. Сам Яновіч пачаў пісаць часткова з тае прычыны, што моцна заікаўся і пісаным словам хацеў кампенсаваць гэты дэфект.

Сакрат быў апантаны беларускасцю і гэта была яго бяда. Па-мойму ён наогул быў чалавекам глыбока няшчасным, бо за ўсё сваё жыццё быў сведкам безупыннага адступлення і скарачэння беларушчыны гэтак у Беларусі, як і на Беласточчыне. Гэтая апантанасць была ў ім бязмежная, шчырая і глыбокая, але, парадаксальна, гэта не была любоў да Беларусі як краіны. Яго злосціла сваёй расійскасцю і савецтчынай і БССР, і Рэспубліка Беларусь. Ён там кепска сябе адчуваў і не атая-

самляў сябе з краінай, але з ідэяй. Беларусь для яго – гэта беларуская культура, найперш літаратура. Гэта яе ён папулярызаваў як мог. Сакрат увесь час тлумачыў добраахвотную русіфікацыю і паланізацыю беларусаў іхным пачуццём няпаўнавартаснасці, халопскім, лакейскім менталітэтам. З гэтай рысай нацыянальнага характару беларусаў ён ніяк не мог змірыцца, але ж і не мог яго змяніць ні сваім жыццём, ні творчасцю. Ён у гэтым пераканаўся, не здолеўшы прышчапіць сваёй беларушчыны нават сваім блізкім. Гэта была яго асабістая параза і трагедыя. Ён памыліўся, калі ў пачатку 90-х трыумфальна заявіў, што калі ёсць незалежная дзяржава, то будзе жыць і беларускасць. Нават я не быў у гэтым упэўнены.

Пра Сакрата Яновіча пішуць: пісьменнік, інтэлектуал, грамадскі і палітычны дзеяч. Не. З палітыкай у яго не атрымлівалася, бо гэта не была ягоная стыхія. Ён яе не разумеў і непатрэбна за яе браўся, калі балатаваўся ў дэпутаты альбо стварыў беларускую партыю. Па наіўнасці ён ублытаўся таксама ў супрацоўніцтва са службай бяспекі, што запэцкала яму біяграфію і падарвала аўтарытэт. Памятаю, як яму адпомсцілі тыя органы, калі ўцяміўшы сваю памылку, Сакрат парваў з імі лучнасць. Але ж ён у гэтым прызнаўся, пакаяўся, а многія нават гэтага не зрабілі. У мяне да яго няма ніякай крыўды. Ён ні мне, ні беларускаму асяроддзю нічога не вінаваты, затое я, як і многія беларусы, – вельмі многае. Ён адкупіў сваю віну з лішкам.

Для мяне ён найперш выдатны літаратар, майстар слова і арыгінальнай думкі. Ён казаў: „Уваскрасаем у нашых дзецях". Да гэтага яшчэ дадам, што пакінутае ім ніколі не памрэ.

*З блогу на Радыё Рацыя*
*(racyja.com)* ■



# *Janusz Korbel*

***Sokrat Aniołek.*** Pisanie dzień po tym, kiedy dowiedziałem się, że już się nie zobaczymy, jest bardzo trudne, bo słowa nie są dobre w chwili straty. Milczenie jest bardziej na miejscu. Kiedy wczoraj rano się dowiedziałem, przypiąłem narty i przez kilka godzin wędrowałem wielką, pustą Doliną Narewki, szaro-białą, cichą i smutną w sypiącym nieustannie śniegu, a myślami byłem gdzie indziej. Pamiętam, jak wiele lat temu znajoma przywiozła mi niewielką książeczkę zatytułowaną „Zahony". Ostatni raz czytałem cyrylicę w szkole, jakieś 40 lat temu. Na szczęście to były krótkie formy i udało mi się przez kilka z nich przebrnąć. Zaciekawiły, spodobały się. Kim był ich autor? Frapujące imię – Sokrates! Ale przecież słyszałem już jego nazwisko wcześniej, bo wcześniej słyszałem o stowarzyszeniu literackim „Białowieża". Nie ukrywam, nie z powodów literackich, a zainteresowania Puszczą Białowieską. Mój kolega, Białorusin pracujący wówczas dla ochrony przyrody Puszczy Białowieskiej, wspominał przy okazji o wybitnym pisarzu Sokracie Janowiczu, o międzynarodowych spotkaniach i wydawnictwach przez niego inspirowanych. Sokrat był więc dla mnie postacią trochę mityczną – wiedziałem, że jest taki człowiek kultury, żyjący gdzieś w Krynkach i do tego... Białorusin. Mieszkałem długo na południu Polski i Białoruś dla mnie prawie nie istniała. Owszem, gdzieś tam były jakieś wspomnienia z dzieciństwa nad Narwi¥, gdzie dzieci za rzeką mówiły nieco inną gwarą, ktoś w rodzinie mamy, chociaż z drobnej polskiej szlachty, miał ruskie nazwisko (pochodzili z tzw. „wschodu"), ojciec z kolei miał powinowactwa ukraińskie, chociaż jego dziadek był Francuzem. Ale niewiele mnie to wszystko obchodziło. I oto, kiedy zamieszkałem na Podlasiu, nagle coraz bliższe stawały mi się sprawy białoruskie. Nie chcę używać zbyt patetycznych słów, ale to była sprawa serca bardziej niż rozumu. Już wiedziałem więcej o Sokracie, już sam szukałem i wciągałem się w jego teksty, zacząłem czytać „Czasopis" i przeczytanie felietonów Sokrata (choć pierwsze, na któ-

re trafiłem, były po polsku) nie sprawiało już trudności. Poznałem Jerzego Chmielewskiego, Leona Tarasewicza i grono wspaniałych ludzi skupionych wokół osoby Sokrata. Kiedy podczas rozmowy pochwaliłem się Sokratowi tym czytaniem, zażartował w swoim stylu, mówiąc: „Janusz, to już tylko połowa kalectwa!”.

Świetnie pamiętam ten pierwszy raz, kiedy zadzwonił telefon, podniosłem słuchawkę i usłyszałem ciepły lekko zacinający się głos: „Dzień dobry, nazywam się Sokrat Janowicz...”. I tak się poznaliśmy... Teraz przed oczami stają mi wszystkie późniejsze spotkania, podczas zjazdów międzynarodowych Trialogów Białoruskich, w Krynkach, w magicznym domu Sokrata i jego ogrodzie. Kiedyś Jurek Chmielewski przywiózł Sokrata na spotkanie „mojego” Towarzystwa Ochrony Krajobrazu w Hajnówce. Na spotkaniu z pisarzem była ówczesna dyrektor Białowieskiego Parku Narodowego, która przyjechała do Białowieży z Nowego Sącza. Po wysłuchaniu krytyki stereotypów polskiego myślenia o tzw. Kresach, uwag o imperialnych językach – polskim i rosyjskim – na historycznej ziemi białoruskiej, poczuła się osobiście dotknięta i urażona. A jednak, po spotkaniu u mnie w domu z Sokratem i po długiej rozmowie stała się zwolenniczką wprowadzenia białoruskojęzycznych opisów, obok innych, na tablicach Parku! Powiedziała mi potem, pod jakim wrażeniem wiedzy i mądrości Pisarza wróciła do domu (niestety, wkrótce została odwołana z funkcji dyrektora).

Tak to charyzma i mądrość Sokrata zmieniała ludzi. Podziwiałem jego skromność, a zarazem ujmujący dystans do wszelkiego prostactwa. Także i do tego aspektu kultury ludowej, chłopskiej. Wszak kultura jest jedna, przez duże „K”, nieważne gdzie powstająca. Myślę, że stać na to tylko ludzi wybitnych, bo jest to połączenie wewnętrznej siły z brakiem cechy niespełnionych artystów – próżności. Sokrat był Osobą, która nie potrzebowała czerwonych dywanów i pochlebstw. Inteligent – jak mawiał Sokrat – to człowiek, który imponuje nie pieniędzmi, ale sobą. – A u nas takich inteligentów już prawie nie ma, wszyscy to groszoroby – dodawał. – Ale zostało jeszcze kilku. Miasteczko Krynki chyba nie do końca korzystało z jego blasku. Kto teraz będzie obrażał pięknie, żeby ludzie zaczęli myśleć?

Spotkanie Sokrata z Towarzystwem Ochrony Krajobrazu w Hajnówce miało miejsce po raz pierwszy chyba w 2005 roku, kiedy to Natalia Lemiesz z TOK opracowała apel o nazwy dwujęzyczne w regionie i ocalenie tutejszego języka białoruskiego od zapomnienia. Zamieściliśmy go po polsku i po białorusku w mediach, a Sokrat z typowym dla siebie poczuciem humoru powitał radośnie tę inicjatywę, przyrównując siebie do rycerza, walczącego o uratowanie białoruskiej mowy, który z radością klęka przed młodą księżniczką tej samej sprawy. Prosiliśmy go o napisanie kilku słów po białorusku do umieszczenia na wydawanych przez stowarzyszenie kalendarzach kulturowych. Do kalendarza na rok 2010 Sokrat napisał takie słowa: *Не дапусцi Божа, каб нашым светам авалодала нейкая адна мова, тады быў бы канец з разнастайным развiццём культуры ды адукацыi. Цi магчыма ўявiць сябе шэсць мiльярдаў ангельцаў або рускiх на зямлi? I нiкога больш!*

Mój białoruski przyjaciel Zmicier Waiciuszkiewicz śpiewał kiedyś, podczas Trialogu, nowe przyśpiewki o aniołkach. I jeden z tych aniołków nazywał się Sokrat. Patrzę teraz na filmik, jaki przy tej okazji nagrałem. Sokrat pochyla głowę i z zażenowanym uśmiechem mówi: „Boża moj, da czaho ŭžo dajszło, pieśni śpiavajuć...”

Ech, Sokracie, Sokracie...



# *Opinie, cytaty*

Прафесар **Алег Латышонак**:

*– Сакрат Яновiч меў простую мару, такую, як i мы ўсе – ствараць з беларусаў грамадства, рашуча дзеля гэтага дзейнiчаў. Зараз вiдавочна, што грамадства не толькi не ўзнiкла, але нават тыя слабыя парасткi ўжо знiклi, цяпер у поўным разбродзе Бела-*

*русь. Можна зразумець Сакрата, за што ён так крытыкаваў беларусаў. Для Сакрата Беларусь і беларушчына была рэлігіяй, ён толькі ў гэта верыў, гэта была рэакцыя чалавека-верніка расчараванага ў аб'екце сваёй веры.*

Радыё Рацыя, 19 лютага 2013 г.

*– Ён быў правадыром для майго пакаленьня. Калі я ўваходзіў у нацыянальнае жыцьцё, ён быў безумоўным лідэрам, настаўнікам. Сакрат і тое, што мы рабілі разам, гэта вельмі важная частка маёй маладосці. Так што мне цяжка ацэньваць Сакрата. Безумоўна, ён быў самым выдатным пісьменнікам на Беласточчыне і адным з найбольш выдатных у агульнабеларускім маштабе. Думаю, што ягоная літаратура застанецца, і мы будзем да яе вяртацца.*

svaboda.org, 22 лютага 2013 г.

*– У канцы 80-х гадоў ён быў даволі прыкметнай фігурай, грамадскім лідарам, не толькі як літаратар выявіў сябе на Беласточчыне. Калі пачаліся пэўныя змены ў Польшчы, падтрымаў па сутнасці рух „Салідарнасць", апазіцыю, скажам хутчэй інтэлектуальна. Таму ў беларускім асяродку ён заняў асаблівае месца, бо яго ведалі, ягоны аўтарытэт адыграў вялікую ролю. Акрамя таго, ён прыкметны пісьменнік, у першую чаргу эсэіст, празаік кароткай формы, якога вельмі высока шанаваў Янка Брыль. Сакрат Яновіч быў і добрым арганізатарам. Штогод у Крынках праводзіліся Беларускія Трыялогі, дзе збіраліся знаўцы Беларусі з усяго свету, перш за ўсё з заходніх краін. Чыталіся, а пасля абмяркоўваліся лекцыі. Па выніках трыялогаў выдаваліся адмысловыя альманахі. Усё гэта адыграла сваю ролю ў пашырэнні беларускай культуры ў свеце.*

**Лявон Баршчэўскі,** грамадскі дзеяч, палітык і літаратар з Мінска, Радыё Рацыя, 19 лютага 2013 г.

*– Ён быў тыповым прадстаўніком беларусаў Беласточчыны, ён фармаваў тую мову і тую культуру. Яна адрозьніваецца ад нашай, але толькі цяпер я зразумела, якое гэта багацьце. Ён быў вельмі шчодрым. Калі я трапіла на Беласточчыну — а ён ужо зьезьдзіў у Лёндан і рабіў ксэраксы ўсіх друкаў, якіх у нас не было, — ён іх ужо выкарыстаў для сябе як пісьменьнік і аддаў усё мне. Ён вучыў нас, як выступаць перад народам. Заўсёды напачатку самае галоўнае. Першая фраза, першы сказ быў „забойным", быў цвіком, а потым людзі ўжо слухалі. Мне вельмі шкада, што страчаны для нашай культуры такі вялікі чалавек. Хоць пісьменьнікі не паміраюць, яго творчасьць застанецца. Яго публіцыстычныя творы, кароткія апавяданьні, аповесці, яны вельмі добрыя, і чытаць іх будуць.*

**Данута Бічэль**, гарадзенская паэтка, Радыё Рацыя, 19 лютага 2013 г.

*– Пад бела-чырвона-белымі сцягамі, як прэзідэнт Беларусі, ляжыць. Сакрат меў харызму. Гады, за якія ён так шмат заплаціў, каб стаць беларусам, інтэлігентам, гэта харызма, веды. Калі гаворка ідзе пра яго пакаленне, то для мяне ён найбольшы мастак.*

Прафесар **Лявон Тарасевіч**, Радыё Рацыя, 19 лютага 2013 г.

*– Znałem tego człowieka od wielu lat. Miał wspaniałe poczucie humoru oraz dystans do różnych spraw i do własnej osoby. W Krynkach była to postać znana i bardzo szanowana przez mieszkańców, zaś jego twórczość była doceniana w kraju i na świecie. Dzięki jego utworom i sławie wiele osób przyjeżdżało do Krynek, aby poznać Sokrata Janowicza. Rozsławiał więc nasze miasto. Wcześniej, gdy zdrowie mu pozwalało, czynnie udzielał się w różnych inicjatywach w Krynkach. Wspierał swoje rodzinne miasteczko, a był jego mieszkańcem z dziada pradziada.*

**Bogusław Panasiuk**, burmistrz Krynek, isokolka.eu, 20 lutego 2013

*– Będzie nam brakowało „sokratek", będziemy tęsknić za ciągłymi połajankami że „to nie tak i nie tędy droga". Zwykle tak bywa, że dopiero po śmierci zaczynamy dostrzegać, jak wielcy ludzie wyprzedzali czas, w którym żyli i jak trafne mieli przemyślenia, dotyczące otaczającego świata. Chcę złożyć wyrazy współczucia i szacunku małżonce Sokrata Janowicza – Tani, bez jej odwagi, wytrwałości i miłości trudno byłoby Sokratowi tak wiele zrobić. Tak już jest, że zawsze życiu wielkiego mężczyzny towarzyszyć musi wielka i silna kobieta. Niachaj ziamla budzie Tabie pucham, Kraciu. X.*

Wypowiedź z forum tygodnika „Polityka", 20 lutego 2013

*– Łączył elementy polskie, białoruskie, europejskie i przez tą swoją tutejszość – gdzieś taki duchowy promyczek w przyszłość, który nam zaświecił, będzie trwał i przyświecał tej pięknej ziemi.*

**Dobiesław Rzemieniewski** z Ministerstwa Administracji i Cyfryzacji, dla „Obiektywu" w TVP Białystok, 21 lutego 2013

*(...) Ах, як не хацелася з'язджаць з дому, што па вуліцы Сакольскай, 9, у якім з кожнага куточка распавядалася хатняе стагоддзе сям'і Яновічаў. Кожны расказ – гатовая мініяцюра, якую бяры, пралівай на паперу и выдавай. Каб толькі хапіла сіл справіцца з усім задуманым – паўтаралася ў ягоных словах. Слова беларускае, што разлілося па еўрапейскіх салонах і адгукалася не рэхам, але перакладамі, вярталася і запаўняла шматмоўнасцю крынкаўскую ваколіцу. Еўрапеізацыя Крынак і Беларусі.*

Рэд. **Яўген Вапа**, „Ніва", 24 лютага 2013 г.

# Minął miesiąc

***W regionie***. 2 lutego na cmentarzu wojennym w Bielsku Podlaskim odbyła się żałobna *panichida* przy mogile upamiętniającej ofiary mordu, dokonanego 29 i 31 stycznia oraz 2 lutego 1946 r. przez oddziały Romualda Rajsa ps. „Bury”. Spacyfikowały one wówczas wsie Zanie, Zaleszany, Końcowiznę, Puchły, Szpaki i Wólkę Wygonowską. Zginęło ok. osiemdziesięciu osób. Spłonęli żywcem, zamknięci w podpalonych budynkach, dokąd ich spędzono, lub od kul karabinów. Pacyfikacja rzekomo miała na celu eliminację osób współpracujących z władzą komunistyczną, a w rzeczywistości zbrodnia nosiła znamiona czystki etnicznej na tle nienawiści do autochtonicznej na tych terenach ludności białoruskiej.

2 lutego w Bielsku Podlaskim odbyły się Bielskie Klimaty Artystyczne. Na imprezie wystąpiły zespoły (m.in. „Małanka”, „Ranok” czy Chór Polskiej Pieśni Narodowej), reprezentujące kulturę trzech narodów, zamieszkujących Bielsk: Białorusinów, Ukraińców i Polaków. Organizatorem imprezy był Bielski Dom Kultury.

## *Misajed 2013 w Krynkach*

9 lutego w Gminnym Ośrodku Kultury w Krynkach miejscowe stowarzyszenie Terra Incognita zorganizowało Misajed 2013, czyli wieczór karnawałowy, nawiązujący do tutejszej tradycji z niedawnej jeszcze przeszłości, kiedy w okresie od Bożego Narodzenia do Wielkiego Postu we wsiach było wyjątkowo radośnie i śpiewnie. Ludzie spotykali się wtedy na wieczorkach i potańcówkach, biesiadowali przy sutym jadle. Niezwykle oryginalna nazwa – „misajed” wzięła się po prostu od mięsa, którego w tych tygodniach spożywano wyjątkowo dużo. Choć na pewno nie tyle co dziś, i to przez okrągły rok. Dawniej taki upust kulinarny wyraźnie kontrastował z późniejszym postem i przednówkiem, kiedy w wielu domach po prostu brakowało jedzenia. Dziś jest to po prostu niewyobrażalne.

W „misajedzie” odbywało się też nadzwyczaj dużo wesel. Trwały po trzy dni, z poprawinami w kolejną niedzielę.

Atmosferę tamtych czasów rok temu postanowiły wskrzesić Joanna Czaban i Helena Puchalska z kryńskiego duetu Zaranica. W domu kultury w Krynkach zorganizowały wówczas wieczornicę, podczas której przypomniały dawne zwyczaje i tradycje z okolicznych wsi, dotyczące tego zimowego okresu. Były śpiewy, tańce i mięsne przysmaki.

Tym razem impreza nabrała jeszcze większego rozmachu. Najpierw odbyła się prezentacja niedawno nagranej przez duet Zaranica płyty „Pieśni z okolicy”. Zapisał je około 1890 r. profesor Jan Baudouin de Courtenay w szlacheckiej osadzie (wówczas używano określenia okolica) Horczaki w obecnej gminie Szudziałowo. Andrzej Garbuz ze stowarzyszenia na rzecz zachowania dziedzictwa kulturowego Sokólszczyzny „Sakolszczyna” w Internecie odnalazł pracę profesora „Pieśni białorusko-polskie z powiatu sokólskiego, guberni grodzieńskiej” i namówił Zaranicę, by je odtworzyła.

Po wysłuchaniu utworów z płyty w wykonaniu (na żywo) duetu na scenę zostali zaproszeni sędziwi dawni wiejscy muzykanci – skrzypek Mikołaj Bajguz z Łosinian i harmonista Anatol Doroszko z Nietupy. Najpierw podzielili się barwnymi wspomnieniami, a następnie wspólnie zagrali niegdyś bardzo popularne polki, oberki... Jak niegdyś je tańczono, pokazały natomiast Joanna Czaban i Helena Puchalska, poinstruowane wcześniej przez 80-letnią Nadzieję Kułakowską z Ostrówka.

Na zakończenie gościnnie wystąpiła kapela Chutar z Gródka. (**jch**)




**„Зараніца” (Галена Пухальская і Іанна Чабан)**

Фота Юркі Хмялеўскага




**Мікалай Байгуз і Анатоль Дарошка – апошнія вясковыя музыканты**






**У апошняй зямной дарозе Св. пам. Сакрата Яновіча ўзялі ўдзел сотні людзей. Над шэсцем лунaлі бел-чырвона-белыя сцягі з чорнымі стужкамі**

W lutym odbywały się rejonowe eliminacje XX Ogólnopolskiego Festiwalu „Piosenka Białoruska 2013”. Wykonawcy prezentowali się w Dąbrowie Białostockiej, Białymstoku, Bielsku Podlaskim, Hajnówce i Siemiatyczach. Centralne eliminacje odbyły się 24 lutego w Białymstoku. Imprezę od wielu lat organizuje Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne. *Глядзі фотарэпартаж на 56-й стар.*

4 lutego w Podlaskim Urzędzie Wojewódzkim w Białymstoku odbyło się doroczne spotkanie wojewody podlaskiego Macieja Żywno z zamieszkującymi region przedstawicielami mniejszości narodowych. Wziął w nim też udział Włodzimierz Karpiński, sekretarz stanu w Ministerstwie Administracji i Cyfryzacji. Jednym z poruszanych tematów była cyfryzacja telewizji naziemnej. Rozmawiano również o programach mniejszościowych w białostockim oddziale TVP oraz w Polskim Radiu Białystok. Poruszono też kwestię wyludniania się obszarów zamieszkałych przez mniejszość białoruską. – Aby rozwiązać ten problem,  potrzeba szerokiej i kompleksowej współpracy – tłumaczył wiceminister Włodzimierz Karpiński. Obecni na spotkaniu przedstawiciele naszego środowiska, m.in. Tomasz Sulima z Cz, podkreślali, że do powstrzymania wyludniania się terenów zamieszkałych przez mniejszość białoruską nie wystarczą dotacje przyznawane przez Ministerstwo Administracji Cyfryzacji.

15 lutego prawosławna młodzież z Grecji, Rosji, Ukrainy i Polski uczestniczyła w Białymstoku w obchodach Światowego Dnia Młodzieży Prawosławnej. Jego inicjatorami w 1992 r. byli liderzy Syndesmosu – Międzynarodowej Federacji Prawosławnych Bractw i Szkół Teologicznych. W Polsce należą do niego Bractwo Młodzieży Prawosławnej oraz Wyższe Prawosławne Seminarium Duchowne w Warszawie.

15 lutego w Pracowni Filmu Dźwięku i Fotografii w Michałowie odbył się pokaz filmu Jerzego Kaliny „Archimandryta”. Po projekcji obecny na seansie reżyser odpowiadał na pytania licznie zgromadzonej publiczności.

17 lutego w wieku 76 lat zmarł w Krynkach Sokrat Janowicz – człowiek wielkiego formatu, wybitny polski Białorusin, uznany i ceniony pisarz, intelektualista, zasłużony obywatel. Urodził się 4 września 1936 roku. Był dziennikarzem „Niwy”, stale współpracował z „Czasopisem” (pod koniec lat 90. krótko był sekretarzem redakcji), aktywnie działał w Białoruskim Towarzystwie Społeczno-Kulturalnym, był współzałożycielem Białoruskiego Stowarzyszenia Literackiego „Białowieża” (1958). W 1994 roku stanął na czele pierwszej białoruskiej partii politycznej w powojennej Polsce – Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego. Był duchowym przywódcą środowisk Białoruskiego Zrzeszenia Studentów i Związku Młodzieży Białoruskiej. Powołał stowarzyszenie, a następnie Fundację Villa Sokrates. Napisał blisko trzydzieści książek i tysiące artykułów prasowych, tekstów publicystycznych, esejów literackich i historycznych. Пахаванне памерлага адбылося 21 лютага. Над жалобным шэсцем з удзелам сотняў людзей лунaлі бел-чырвона-белыя сцягі з чорнымі стужкамі. Труна з целам памерлага таксама была накрытая бел-чырвона-белым палотнішчам з гербам Пагоні. Падчас св. Літургіі і паніхіды ў Прачысценскай царкве ў Крынках, а потым над магілай на крынскіх праваслаўных могілках, прагучаў гімн „Магутны Божа”.

20 lutego Sąd Okręgowy w Białymstoku drugi raz już wydał wyrok oczyszczający posła SLD Eugeniusza Czykwina z zarzutu rzekomego kłamstwa lustracyjnego. Za pierwszym podejściem, w procesie rozpoczętym w 2009 r., wydał analogiczny wyrok, jednak sąd wyższej instancji zwrócił sprawę do ponownego rozpatrzenia. Zdaniem strony oskarżającej, czyli Instytutu Pamięci Narodowej, posła jako tajnego współpracownika zarejestrowano w 1983 r., w 1988 r. zaś

zakończono z nim współpracę. Mimo przedłożonych informacji na ten temat sąd uznał, że brak jest kompletnych dowodów w sprawie (zobowiązania do współpracy, teczki osobowej, raportów tudzież pokwitowań podpisywanych przez Czykwina). Wyrok nie jest prawomocny.

21 lutego wojewoda podlaski Maciej Żywno i przedstawiciele strony białoruskiej wizytowali rozbudowę polsko-białoruskiego przejścia granicznego w Połowcach. To bardzo duża inwestycja, której koszt całkowity wyniesie 178 mln zł. Po modernizacji przejścia, co ma nastąpić w 2015 r., polsko-białoruską granicę mogło tam będzie przekraczać w ciągu doby w obu kierunkach około dwustu ciężarówek i około dwóch tysięcy aut osobowych oraz pięćdziesięciu autobusów. Przejście rozbudowywane jest także po białoruskiej stronie granicy.

22 lutego w Bielsku Podlaskim odbył się finał wojewódzkiego konkursu przedmiotowego z języka białoruskiego dla szkół podstawowych. Wzięło w nim udział 34 uczniów z całego województwa. Uczestnicy mieli do rozwiązania zadania z gramatyki, była też praca z tekstem. Najlepsi otrzymali tytuł laureata. W szkołach w województwa podlaskiego na zajęcia z języka białoruskiego uczęszcza ponad 3300 uczniów.

24 lutego w Bibliotece Uniwersyteckiej im. Jerzego Giedroycia w Białymstoku odbyło się spotkanie podsumowujące projektu „Wielokulturowe Podlasie w Unii Europejskiej", zrealizowanego przez Centrum Dokumentacji Europejskiej w Białymstoku i Wydział Prawa UwB dzięki wsparciu Przedstawicielstwa Komisji Europejskiej w Polsce. W ramach projektu odbyły się warsztaty dla nauczycieli z naszego regionu, podczas których uczestnicy poznawali kulturę mniejszości narodowych, etnicznych i religijnych północno-wschodniej Polski, a także uczyli się, jak nauczać o niej innych i jak przełamywać bariery w kontaktach z przedstawicielami mniejszości. Podczas spotkania odbyła się promocja książki „Wielokulturowe województwo podlaskie w Unii Europejskiej. Podręcznik dla nauczycieli", otwarto też wystawę „Jestem stąd. Polska wielu narodów", prezentującą zdjęcia portretowe 15 przedstawicieli mniejszości etnicznych i narodowych (białoruskiej, czeskiej, karaimskiej, kaszubskiej, litewskiej, łemkowskiej, niemieckiej, ormiańskiej, romskiej, rosyjskiej, słowackiej, śląskiej, tatarskiej, ukraińskiej, żydowskiej).

Akcję „Wiza za bilety" przygotowała Opera i Filharmonia Podlaska w Białymstoku we współpracy z miejscowymi biurami podróży. Powstała specjalna oferta kulturalna dla Białorusinów przyjeżdżających w grupach zorganizowanych, w ramach której, oprócz zwiedzania miasta czy zakupów, goście obejrzą też przedstawienie w operze. Tylko w takiej grupie mogą oni przekroczyć granicę na bezpłatnych wizach kulturalnych, które obowiązują w strefie Schengen. W ramach oferty, oprócz biletu do opery, zagwarantowany jest też nocleg, wyżywienie oraz zwiedzanie miasta. Koszt takiej dwudniowej wycieczki w jednym ze współpracujących z operą biur to ok. 200 zł od osoby. Pierwsze grupy Białorusinów mają przyjechać do opery na początku marca.

Ukazała się monografia „Parafia prawosławna pw. św. Ap. Jana Teologa w Mostowlanach" autorstwa prof. Antoniego Mironowicza. Opisuje historię jednej z najstarszych parafii w diecezji białostocko-gdańskiej; całość zilustrowano ponad setką zdjęć. Dochód ze sprzedaży książki zostanie przeznaczony na kolejny etap remontu cerkwi w Mostowlanach.

***W kraju***. Białostocka Galeria Arsenał znalazła się na 6. miejscu wśród galerii sztuki współczesnej w Polsce w rankingu tygodnika „Polityka". W uzasadnieniu czytamy m.in.: „Wybór, jak przy najlepszym artystycznym szwedzkim stole; około 20 wystaw rocznie (…), sporo projektów za granicą, duży szacunek całego krajowego środowiska. Nie ma sensu wymieniać znaczących artystów, którzy tu wystawiali ostatnimi laty, bo zbyt długa byłaby to lista". Pierwsze miejsce w rankingu zajęła Narodowa Galeria Sztuki Zachęta w Warszawie.

Od 28 stycznia do końca lutego w Zamojskim Centrum Kultury Filmowej można było oglądać wystawę fotograficzną Jana Wardacha, której tematem przewodnim była Biblia w ikonografii Kościoła prawosławnego oraz malowane klasztory Bukowiny. Organizatorem wystawy byli Jan Wardach, Zamojskie Towarzystwo Fotografii, parafia prawosławna św. Mikołaja w Zamościu oraz Kino Stylowy.

W dniach 2-3 lutego odbył się XVIII Międzynarodowy Festiwal Kolęd Wschodniosłowiańskich w Terespolu. Zaprezentowały się na nim chóry z Polski oraz z Białorusi i Ukrainy. Organizatorami festiwalu byli Prawosławna Diecezja Lubelsko-Chełmska, Fundacja Dialog Narodów, Miejski Ośrodek Kultury w Terespolu, Nadbużańskie Centrum Kultury Prawosławnej w Terespolu. Imprezę wsparł finansowo Minister Kultury i Dziedzictwa Narodowego.

5 lutego Ministerstwo Administracji i Cyfryzacji ogłosiło otwarty konkurs ofert na organizację festiwalu rockowego, skierowanego do mniejszości białoruskiej w Polsce. O pieniądze może ubiegać się każda organizacja pozarządowa, dysponująca odpowiednią kadrą. Dodatkowy konkurs ogłoszony przez resort to efekt nieprzyznania dotacji Białoruskiemu Zrzeszeniu Studentów na organizację festiwalu „Basowiszcza". BAS nie otrzymał drugi rok z rzędu dofinansowania z ministerstwa przez problemy z

właściwym rozliczeniem poprzednich edycji imprezy i – zdaniem urzędników ministerstwa – niepodjęcie żadnych działań mających na celu wykazanie, że sytuacja organizacji uległa poprawie. Na imprezę Ministerstwo Administracji i Cyfryzacji przeznaczyło 100 tysięcy złotych. Chętni do złożenia oferty mają na to 30 dni.

Polski Autokefaliczny Kościół Prawosławny nie jest zainteresowany odpisem podatkowym, który ma zastąpić Fundusz Kościelny – oświadczył 22 lutego prawosławny metropolita warszawski i całej Polski abp Sawa. Odniósł się w ten sposób do zawartego pomiędzy rządem a Kościołem katolickim porozumienia w sprawie 0,5 procentowego odpisu podatkowego. Prawosławny hierarcha dodał, iż w nowych okolicznościach oczekuje zapisanej w ustawie rekompensaty za likwidację Funduszu Kościelnego oraz dwustronnej umowy z rządem w sprawie finansowania. Minister administracji i cyfryzacji Michał Boni zapowiedział prowadzenie dalszych rozmów w sprawie finansowania działalności poszczególnych Kościołów i związków wyznaniowych w Polsce.

***W Republice Białoruś***. Białoruś otrzymała 4. transzę kredytu Funduszu Antykryzysowego Euroazjatyckiej Wspólnoty Gospodarczej (EaWG) w wysokości 440 mln dol. Fundusz Antykryzysowy EaWG, tworzonej przez Rosję, Kazachstan i Białoruś, przyznał Białorusi 3 mld USD kredytu do wypłacenia w latach 2011-2013. Warunkiem była prywatyzacja w tym czasie firm na sumę co najmniej 7,5 mld dolarów. Dotychczas Białoruś nie spełniła tego założenia. Między innymi w związku z tym 30 stycznia Komitet Własności Państwowej zaproponował sprzedanie mniejszościowego pakietu akcji jednej z najważniejszych białoruskich firm, koncernu potasowego Biełaruśkalij oraz zakładów przetwórstwa ropy Naftan.

Od 1 lutego po raz drugi w tym roku wzrosły w Białorusi opłaty za energię elektryczną – o 18 proc. Zgodnie z decyzją Rady Ministrów z 26 stycznia opłata za energię elektryczną będzie wynosić 324,9 rubli białoruskich (1,17 zł) za kWh. Poprzednia podwyżka z 1 stycznia wynosiła 9,5 proc. Obecnie opłaty wielu mediów i usług na Białorusi, m.in. energii elektrycznej czy gazu są w znacznym stopniu dotowane przez państwo. Władze zapowiedziały jednak, że do końca 2016 r. mieszkańcy Białorusi zaczną opłacać 100 proc. kosztów dostarczanego im prądu. Pod koniec 2012 r. pokrywali zaledwie 30,9 proc. kosztów dostarczanej energii elektrycznej, 16,8 proc. ogrzewania i 19,1 proc. gazu.

Od 1 lutego 2013 r. wzrosły taryfy na tranzyt ropy przez terytorium Białorusi. Wzrost wyniósł ok. 9,7 proc. Podwyżki dotyczą m.in. ropy płynącej rurociągiem „Przyjaźń” do Polski i Niemiec.

Andrzej Poczobut, znany działacz mniejszości polskiej w Białorusi oraz publicysta „Gazety Wyborczej”, wielokrotnie karany i nękany przez władze za artykuły krytyczne wobec reżimu Łukaszenki, został laureatem nagrody opozycyjnej partii Młody Front „Kocham Białoruś” w kategorii dziennikarstwa. Młody Front przyznaje te doroczne nagrody m.in. za popularyzację kultury białoruskiej, rozwijanie tożsamości narodowej, nowe i ciekawe zjawiska w kulturze i polityce. W tym roku oprócz Poczobuta laureatami zostali m.in. więźniowie polityczni oraz ambasador Szwecji Stefan Eriksson, któremu władze białoruskie nie przedłużyły akredytacji w Mińsku.

2 lutego niezależne portale białoruskie zorganizowały dyktando do tekstu „Listu spod szubienicy” Kon-




svaboda.org




**Працы, дасланыя на лютаўскі конкурс Радыё Свабода „Люблю Беларусь”, прымеркаваны да 175-годздзя з дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага і 150-годздзя ад пачатку паўстаньня 1863–1864 гадоў. Перамагла гэта справа, якая атрымала беспрэцэдэнтную колькасьць галасоў.**

# *Св. пам.* *Сакрат Яновіч*

## (4.09.1936 – 17.02.2013)




**Канец 1950-ых гадоў**



**Wczasy. Крыніца, 1962 г.**



**З паэтам Веславам Казанэцкім, канец 1970-ых**



**З бацькам Канстанцінам (справа)**

Obywatel
Zenon S W I T A J,
Wicewojewoda Białostocki.

W związku z tym, iż władze białostockie, bardzo wyraźnie ostatnio dały mi odczuć – jak już wiem teraz, zawsze istniejący – – trudny do zniesienia brak poparcia z ich strony dla mnie jako pisarza i społecznika, niniejszym rezygnuję w sposób nieodwołalny z jakichkolwiek kontaktów z nimi / również honorowych lub presti – żowych / w przedmiocie obu materii, jednocześnie prosząc o usza – nowanie tej mojej decyzji, nie nękanie mnie i środowiska t. zw. rozmowami wyjaśniającymi, czy innymi na tę okoliczność.

Mam nadzieję, że to moje oświadczenie nie posłuży władzom za wygodny pretekst do: kolejnej nagonki wymierzonej przeciwko mnie ponownego pogrążenia mnie i mojej rodziny w nędzę materialną, mści- wego zablokowania zarysowujących się możliwości poprawy warunków mieszkaniowych etc.

Dziękując za zrozumienie –

Sokrat Janowicz.

Białystok, dnia 7 października 1979 roku.



З беларускімі студэнтамі, 1989 г.



З Васілём Быкавым, 1996 г.



З Лёнікам Тарасэвічам, 1995 г.



З папам рымскім Янам Паўлам II. Рым, 13 мая 1998 г.



У кватэры Яцка Кураня, 2003 г.



З Яўгенам Кабацам, перакладчыкам сваіх твораў, 2010 г.



Бэнефіс на 75-годдзе. Крынкі, верасень 2011 г.



Падчас бэнефісу з мастаком праф. Андрэем Струміла



З Юркам Хмялеўскім на вокладцы кніжкі „Nasze tysiąc lat”, лета 200 г.



На вокладцы кніжкі „Utwory wybrane”, 2011 г.



Перад першым беластоцкім домам, у якім жыў з сям’ёй у 1958-62 г.г. (вул. Кілінскага). Восень 2002 г.



Беласток, вул. Складоўскай 6. Тут жыў у 1962-1994 г.г.



Бацькоўскі дом у Крынках, Сакольская 9, куды вярнуўся жыць у 1994 г. і тут памёр 17 лютага 2013 г.

Фота з хатняга архіва (аўтары м.інш.: Гжэгаж Дамброўскі, Януш Корбель, ЮркаХмялеўскі, Павал Грэсь)

*Сакрат Яновіч*

## *СУПРАСЛЕЎСКІ ТРЫПЦІХ*

***I.*** Жылі-былі людзі тут і заўсёды, як дзень залатаблакітны прыходзіць ды ноч зорная настае. Верылі ў дарунак дажджоў у веснаполі на ўмалот зернехлебны і ў ласку бору жывічна-мядовага, і ў рэчкі бруіста-рыбныя. А яшчэ ведалі, напэўна, што без працы анішто не спорыцца; сваім жа мазалём – не крыўдаю чужою – народы ёсць слаўныя. Выходзілі прашчуры нашы з сярпом маладзіковым на нівы ў Юр'еў абход блаславёныя, пакланяючыся Усявышняму за сяўбу дабрачасную, за калоссе буйнае, і за тое таксама, што пот ненадарэмны. Быць патрэбным не аднаму сабе – гэта даступнасць да вышэйшага сэнсу існавання непустога і да шчаснасці даўгавечнае на ўсе леты суджаныя.

Як без вады ўсякае жывое прападае, а крыніцы яе з глыбіняў тхланных бяруцца, так і з мудрасцю, пачатак якое ў Слове, а Яно было сказана, і навучаліся Яму шчыра-незабыўна. З Ім гэта ж агоралі злыбеды і нашэсці, пакуты розумаў слабых ды сэрцаў упалых, не даўшы ў ганьбу і няволю род наш старажытны, дум ягоных высокія памкненні архангелам белакрылым ахаваўшы. І губляючы Яго ў сумятні будзённасці няўважлівай, калі подых мяртвоты твар холадам абдасць, спасу шукаем, светлячка алтара нязгаснага, і пісанне божакніжнае цалуем губамі спажывы духоўнае прагнымі.

Колькі ні нараджаемся ды адраджаемся, гарыць зорка адна тая над намі, і за ёю дарожымся мы ў старонне супраслеўскае, да Цябе – Віфліеме Русі маёй Белай.

***II.*** У пустэльні ціхамірнай Гаспод Бог пасяліўся, на самагрудзе стромістым у даўніну нецяперашнюю. Паміж лясоў неаглядных святлом зазззяла нештадзённым у гэтай краіне нам панурай, ад людства адрынутай. Святыня Добрай Весці ўзвысілася ў падхмар'е смутнае на вякі адвечныя, ад тады і назаўжды паднябесныя. Праяснеў жа воблік продка, лёсам зацюканага, ад беспрасвецця ўдзічэлага ў жыццё малавернае. Душа яго акрыяла, сэрца птушкай забілася, голубам узляцела анельскім, а ў вачах – дабрыня расквітнела васількова я. Цуд у ім, чалавека ў чалавеку, збыўся, самы чаканы з прычаканых, вялікі з найвялікіх – хрыстападобны!

Зямля тут наша айчынная, да крыві касцей родная, са светам з'яднаная ахвярай падіконнаю, адданасцю ўсёцялеснай. Быць нам на ёй, як Госпаду ў вышынях, як памяці ў людзях, як несмяротнасці ў бясконцасці неспасцігнай.

Да Супраслі я іду, да Цябе – Іярдане Русі маёй Белай.

***III.*** Ішоў час агромністы ў край наш забыты, векаванню тубыльчаму надаючы значэнне непрыгуменнае, не адно застольнае. Лясун выглянуў урэшце з ялінаў кашлатых, з ягаднікаў чарнічных сыйшоў, як і заполянік з гоняў жытнёва-далечных, каб зрокам душэўнасці абуджанай угледзець, што быццё чалавекападобнае ёсць не па-звярынаму выпадковае. І не лысая гара, што паміж рачулак з дрыгвянікамі, з небам гаворыць ды не князь у гародніншчы спадаром над спадарамі; не Пярун маланкаю паліць, грымотна ў навальніцу гайсаючы. Богі прыдуманыя, стварэнні бястварыя, пагразныя неўгамонна ўсе да апошняга валадарылі фікцыяй няўмольнаю ў апраўданне язычніцкае ад свету незразумення. Каморнае цемені дамавіковае баяліся, і водарасцяў русалчыных у купанне жнейнае ў плыні зеляністай пад стромаю залужнай. Ад усякіх уцякаць, а жа ж нікому не давярацца ўзвычаеныя, слухалі навуку Хрыстовую, як байку нерэальную, таму і прыгожую... Ажно адкрыліся ўсцяж душы-сэрцы зацямнёныя, бы ў пагоддзе павяснелае, калі вербы маладалістыя суцяшальны знак абновы падаюць; рукі натруджаныя да іх галінак ажыўшых працягваюцца.

Ад тае пары што ні год вітаем мы Госпада, які дорыць нам узрадаванне зямное і задзіночанне ўсёпакаяльнае ў любові выбачальнай, хоць на памятны міг збаўляючы слодычна ад нянавісці пякотнае, усячыны непрыстойнае.

У тую часіну ў Супраслі быць мне ўквечанай, да Цябе я ў думках імчу – Іерусаліме Русі маёй Белай.

## *НА ПАРОЗЕ СТАРАСЦІ*

І твае дзеці ўвойдуць у сумоту дарослясці, бы вандроўнікі даўнія ў лес стараялінавы. Калі будзеш яшчэ жыць, дык паглядзіш за імі і нічога ўжо ім не скажаш. А яны ўсяго пачнуць здагадвацца ў тым, што і тваё жыццё не было надарэмным. І што апошнія наогул не бываюць першымі.

Успрыймацьмуць, а ці мала хто, свет белы так, быццам створаны ён у пярэдадзень іхных нарадзінаў і, вядома, досыць неразумна. Ажно прыйдзе і да іх той дзень і час, у які ціха скемяць пра паўторнасць сваю, як дачка пра замужжа ўласнае, зазвычай гэтак жа легкадумнае... А і пра тое, што – беларусам трываць, бяды ды паніжэння паспытаць трэба і ў гэтую эпоху абяцаную, каб хоць чалавекам і цяпер застацца.

І, як лета цяплынь узмацняе у нас адчуванне свайго існавання, і нам добра тады апынуцца на рэчцы ў лузе, калі яна якраз цямнее ад буры, што валачэцца ды грыміць над лясамі, – так супакой жа нейкі блаславёны сыходзіць з вышыняў нават ад думкі аб тым, што, відаць, у даўніну таксама найболын купаліся ў плыткаводдзі менавіта малыя, гэтыя стварэнні шчаслівасці, пры якіх абнаўляемся ж, праўда, усё часцей успамінамі.

Яны, ці бачыце, чужэюць, бо ёсць жа самі навіною, сутнасць якое ў змене чагосьці істотнага. Каб толькі да лепшага – вось няўпэўненасць веквечная.

*З кнігі «Запісы веку» (Беласток, 1999)*

# Апошні шлях
# Сакрата Яновіча
## Крынкі
## 21 лютага 2013

фота Павал Тадэйка





# Календарыюм

### Сакавік – гадоў таму

**510** – 4.03.1503 г. - памір'е (на 6 гадоў) паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Вялікім Княствам Маскоўскім, паводле якога да Масквы адышло 29 гарадоў і 70 валясьцей, у тым ліку Чарнігаў, Бранск, Старадуб, Гомель.

**150** – 11.03.1863 г. - царскі ўказ пра ўвядзеньне абавязковага выкупу праз сялян зямлі на ўласнясьць у Віленскай, Гарадзенскай, Ковенскай і Менскай губэрнях.

**130** – 9.03.1883 г. нар. у Вільні Францішак Аляхновіч (застрэлены ва ўласнай кватэры польскімі або савецкімі забойцамі 3.03.1944 г.), драматург, тэатральны дзеяч, журналіст. Паходзіў зь сям'і віленскага скрыпача. У 1907 г. закончыў Варшаўскую Драматычную Школу. Праз некалькі гадоў ўключыўся ў беларускі рух. У 1917 г. супрацоўнічаў з газэтай "Гоман" выдаванай у Вільні. З 1918 г. працаваў у Менску ў Беларускім Дзяржаным Тэатры. З вясны 1919 выдаваў у Вільні часопіс "Беларускае Жыцьцё". Восеньню 1919 г. стаў дырэктарам і рэжысёрам Беларускага Тэатра ў Менску. У 1920 г. вярнуўся ў Вільню, рэдагаваў між іншым "Беларускі Звон". У 1926 г. пераехаў у БССР, а 1927 г. быў сасланы на Салаўкі. У 1933 г. вярнуўся ў Вільню, абменяны польскім бакам за Браніслава Тарашкевіча. Свае лагерныя ўспаміны спісаў у кнізе "У кіпцюрах ГПУ" (перакладзенай на многія мовы). У часе нямецкай акупацыі рэдагаваў у Вільні "Беларускі Голас". Аўтар шматлікіх драм, між іншым "На Антокалі", "На вёсцы", "Цені", "Круці не круці - трэба памерці".

**95** – 9.03.1918 г. - Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Зьезду прыняў Другую Устаўную Грамату, у якой абвясьціў стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) у межах беларускай этнічнай тэрыторыі.

**95 – 25.03.1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Трэцяй Устаўнай Грамаце абвясьціла пра аддзяленьне Беларусі ад Расіі і ўтварэньне вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Агульнабеларускае сьвята незалежнасьці.**

---

# Kaliś śpiawali




1. Paŭstańcie /swatowie /świadkowja/ ŭsieńki ŭ rad –
   Budzie jści Maniaczka praz parah.

2. Drobnymi slozkami sypluczy –
   Rodnaje matuli iszczuczy.

3. ŭsieńkija /swatowja /świadkowja/ pierajszła –
   Rodnaje matuli nie znajszła.

4. Padyszła da woza jak róża –
   Wzdojchnuła ciażeńko – moj Boża !

5. Wzdojchnuła ciażeńko, moj Boża,
   A chto ż mnie, sirotcy, pamoża ?

6. – Najmilsza Maniaczka, najmilsza –
   Spomoża Cie pan Boh najwyższy.

7. Spomoża Cie pan Boh najwyższy
   I Cie twoj Wanieczko najmilszy.

Ad Maryji Kułakoŭskaj (1931 h. naradż.) u Astroŭku Szudziałaŭskaj hm. zapisaŭ 4.VI.1999 h. i aprac. **Sciapan Kopa**




**Шчыра ўсіх вітаем з найбольшым беларускім нацыянальным сьвятам, Днём Незалежнасьці Беларусі – 95-мі ўгодкамі Акту 25 Сакавіка!**

*Калектыў „Ч”*

**90** – 3.03.1923 г. у Вільні выйшаў першы нумар газэты “Новае Жыцьцё”. Галоўным рэдактарам быў Я. Лагіновіч. Выданьне публікавала шмат матэрыялаў пра Беласточчыну. Закрыта польскімі ўладамі пасьля 13 нумара.

**90** – 13.03.1923 г. у Белавежы нар. Георгій Валкавыцкі, журналіст, пісьменьнік. Закончыў Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве. З 1954 г. журналіст у Беластоку. Заснавальнік „Нівы”, узначальваў яе 33 гады. Актыўны дзеяч беларускага літаратурнага, культурнага і грамадзкага жыцьця на Беласточчыне. Заснавальнік Літаратурнага Аб’яднаньня „Белавежа”. Аўтар некалькіх кніх паэзіі, эсэ, гумару, успамінаў.

**80** – 10.03.1933 г. у Грэдалях на Бельшчыне нар. Серафім Андраюк, пісьменьнік і дзеяч літаратурнага руху ў Беларусі. Пасьля вайны выехаў з бацькамі ў БССР. Шматгадовы галоўны рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура”.

**70** – 5.03.1943 г. у Менску загінуў у выніку скрытабойчага замаху Фабіян Акінчыц (нар. 20.01.1886 г. у в. Акінчыцы, Менскага павету), грамадзка-палітычны дзеяч. У 1913 г. скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага Унівэрсытэту. У 1926 г. актыўна ўключыўся ў дзейнасьць Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. У траўні 1928 г. быў асуджаны на 8 гадоў турмы. Вызвалены датэрмінова ў палове 1930 г. У канцы 1933 г. разам з У. Казлоўскім пачаў выдаваць „Новы Шлях” ды арганізаваць Беларускую Нацыянал-Сацыялістычную Партыю. З ліпеня 1939 г. у Бэрліне, старшыня Беларускага Бюро Прапаганды. У пачатку 1940 г. быў старшынёй Беларускага Камітэту ў Варшаве.

**60** – 9.03.1953 г. у Лювэне (Бэльгія) пам. Мікола Равенскі (нар. 5.12.1886 г. у маёнтку Капланцы, Ігуменскага павету), выдатны кампазітар, дырыжор. Пачаў кампанаваць у 1920 г. пачаткова песьні на вершы Максіма Багдановіча (прыкладова “Слуцкія ткачыхі”, “Ня кувай ты, шэрая зяюля”), Канстанцыі Буйла (“Люблю наш край”, “Каб я крыльле мела”). У 1922 г. у Менску выйшаў друкам першы абшырны зборнік ягоных твораў “Зборнік песьняў з нотамі”. У трыццатыя гады працаваў выкладчыкам у музычным тэхнікуме ў Менску, потым у кансэрваторыі. Пазьбег арышту. Ад 1943 г. быў рэгентам царкоўнага хору ў Ігумені (Чэрвені), дзе кампанаваў музыку да малітваў. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Працаваў настаўнікам сьпеваў у беларускіх гімназіях у Нямеччыне. У 1950 г. пераехаў у Лювэн, дзе арганізаваў музычнае жыцьцё сярод студэнтаў-беларусаў.

**35** – 23.03.1978 г. памёр Рыгор Шырма (нар. 20.01.1892 г. у в. Шакуны, Пружанскага павету), харавы дырыжор, фальклярыст, грамадзкі дзеяч. Актыўна ўключыўся ў беларускі рух у 1922 г., дзейнічаў у Беларускім Выбарчым Камітэце. Пасьля стаў настаўнікам сьпеву ў Віленскай Беларускай Гімназіі, выхавацелем у інтэрнаце гімназіі. Грамадзка працаваў у Таварыстве Беларускай Школы. Выдаваў зборнікі беларускіх песьняў. Стварыў і кіраваў двума харамі ў Вільні: вучнёўскім пры гімназіі ды студэнцкім. Двойчы быў арыштаваны польскімі ўладамі. Пасьля вайны жыў у БССР, праяўляў вялікую грамадзкую і прафэсійную актыўнасьць.

**25** – 26.03.1988 г. у Беластоку падчас сьвяткаваньня 70-ых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР быў сфармаваны Заснавальніцкі Камітэт Беларускага Аб’яднаньня Студэнтаў якога сябрамі сталі: Юрка Грыгарук, Аліна Якімюк, Юрка Каліна, Аляксандар Карпюк, Юрка Ляшчынскі, Данута Мароз, Валянцін Сельвесюк, Багдан Сіманенка, Яўген Вапа, Альжбета Ваўранюк і Мікола Ваўранюк.

*Апрацавалі* **Лена Глагоўская**
і **Вячаслаў Харужы** ■

*Leon Moenke*

# Stawka o życie

*15*. Nie byłem pewny, jak zareaguje na to żona, gdyż dotychczas z wielkim sceptycyzmem ustosunkowywała się nie tylko do tych lub innych projektów, lecz w ogóle wątpiła w samą możliwość ucieczki z ZSRR, uzasadniając to w swoisty sposób:

– Gdyby to było tak, jak ty mówisz, to by to robili wszyscy, a w każdym razie nie jeden już by to uczynił. Głupcem trzeba być, by sądzić, iż G. P. U. w takim razie o tym jeszcze nic nie wie i nie uczyniło wszystkiego, by to uniemożliwić raz na zawsze.

Ta wiara we wszechobecność, wszechwiedzę i wszechmoc G. P. U., ta legenda świadomie podtrzymywana i ciągle podsycana wszelkimi sposobami przez prasę, partię i samo G. P. U., robiła często ludzi w Sowietach niezdolnymi do jakiegokolwiek oporu i sprzeciwu, pozbawiała ich czasami wszelkiej inicjatywy i odwagi, tego co Niemcy określają jednym słowem: „Wagemut".

Nie brałem tego żonie za złe, gdyż nawet osoba, która jeszcze za czasów carskich brała czynny udział w walce nielegalnej, zadała mi pewnego razu pytania:

– A czy ucieczka jest możliwa?

Czegóż więc mogłem wymagać od żony, która tylko w ciągu paru lat ocierała się o walkę nielegalną. Mimo to, gdy się spotkałem z jej strony z tym objawem hipnozy gepistowskiej, ogarnęła mnie wściekłość, którą zawsze byłem w stanie opanować. Tego dnia zanosiło się właśnie na tego rodzaju wybuch. Oczekując od żony zwątpienia i ociągania się, miast gotowości do natychmiastowego działania, już z góry zwróciłem się do niej tonem nie znoszącym żadnego sprzeciwu. Lecz stała się rzecz dla mnie nieoczekiwana.

– Dobrze – odrzekła. – Wiesz, że to może się nam właśnie udać! Gdy jechałam tu do ciebie, wysiadłam ze statku wprost na ulicę, do tramwaju.

W świetnym nastroju, przeświadczony, iż i żona przychyliła się do mych planów i zajęła czynną postawę, wyszedłem z nią na „wycieczkę" do portu.

* * *

U bramy wejściowej staliśmy przez dłuższy czas, zanim przewodnik nasz wyrobił zbiorową przepustkę na zwiedzanie portu.

Żołnierz przy wejściu uważnie ją obejrzał i puszczając nas pojedynczo przez wąską furtę, dokładnie odliczał. Było nas 21 osób.

Ten wstęp do portu nie podobał mi się wcale.

Zaczęto pokazywać nam ogromne składy i nowo wybudowane olbrzymie baseny. Długo rozwodził się przewodnik o historii portu petersburskiego: o rozwoju jego i miejscach, gdzie się kolejno znajdował. Zwłaszcza dużo uwagi poświęcał on rozwojowi i budownictwu portu za czasów „piatiletki", zapominając przy tym dodać „drobnostkę", iż port ten stał się ostatnio jedynym portem 160-milionowego państwa na Bałtyku.

Z wielkim zainteresowaniem słuchałem o ogromnej ilości okrętów, odwiedzających ten port w czasie nawigacji lecz... nie widziałem ani jednego. Wciąż kręciliśmy się koło pustych przystani i składni (nowo wybudowanych, co prawda) z importowanymi łachmanami wełnianymi (surowiec dla przeróbki w przemyśle wełnianym zamiast wełny). Wściekłem się wprost, gdyż stawało się już dość późno. Wreszcie wyszedłszy na pewien basen, zobaczyłem po przeciwległej stronie statek cudzoziemski, na który coś ładowano.

– Jakie tam składy? – spytałem przewodnika.

– A to są chłodnie, o których wam mówiłem.

– Czy nie można by ich obejrzeć? – spytałem znowu.

– A owszem, bardzo chętnie... Zaraz tam pójdziemy – i z tymi słowy przewodnik ruszył w pożądanym dla mnie kierunku.

– Gdzie ty wysiadałaś? – zwróciłem się szeptem do żony. – Może gdzie tu w pobliżu?

– Nie, to wszystko wcale nie podobne do tego miejsca, gdzie wysiadałam. Powiadam ci, że wysiadłam wprost na ulicę, do tramwaju.

– Tu ani ulicy, ani tramwaju śladu nie ma – zauważyłem ze smutkiem.

Zbliżyliśmy się do chłodni i do statku cudzoziemskiego.

*„Kurier Wileński" nr 41, 11.02.1938 r., s. 5*

Aż dwóch gepistów stało przy nim, nie spuszczając oczu z mostu, po którym tam i z powrotem łaziło kilku robotników.

Smutno spojrzeliśmy po sobie.

– Tu masło, tu mięso, tu jaja – objaśniał przewodnik.

– Co ładują na ten statek? – spytałem.

– Jaja do Anglii. Statek norweski.

W oddali stały i inne statki – sowieckie i cudzoziemskie, lecz przy każdym z przyholowanych widzieliśmy „anioła stróża".

– Jakie to są okręty? – spytałem przewodnika.

– To są wszystko statki towarowe. Jesteśmy teraz w przystani towarowej.

– A gdzie jest przystań osobowa? – zadałem mu wreszcie niepokojące mię już od dłuższego czasu pytanie.

– Dawniej była na Wyspie Wasilewskiej, obecnie tu, nieco dalej... Lecz tam nie ma nic ciekawego – dodał po chwili.

– Wycieczka nasza skończona! – rzekł głośno, by wszyscy mogli słyszeć. – Proszę, towarzysze, nie rozpraszać się, by nie było nieporozumień. Wracamy. Przepustka jest jedna na wszystkich.

Szedłem z powrotem jak skazaniec. Prysły nadzieje na ucieczkę okrętem.

U furty znów posterunkowy starannie nas przeliczył. Było 21 osób.

* * *

– No, cóż? – zwróciła się do mnie żona, gdyśmy wracali. – Mówiłam ci przecież, że G. P. U. nie jest takie głupie, jak tobie się zdaje. Przekonałeś się teraz? Dawniej, gdy ja przyjechałam, przystań była na Wyspie Wasilewskiej, wychodziło się wprost na ulicę, a teraz tutaj. Jeśliby się nam udało nawet odłączyć od wycieczki i przedostać się pomimo straży na statek norweski, który odchodzi za trzy dni, to tu, przy wyjściu z portu wykryto by naszą nieobecność i na pewno by nas odnaleziono. – Co? Może wątpisz?

– Rzecz oczywista, o której nie ma co gadać.

– Ty, gdy ci się coś nie podoba, masz zwykle jedną odpowiedź: – „Nie ma co gadać", „dosyć"... – tyle tylko od

ciebie słyszę. Z naszej ucieczki nic nie będzie. Trzeba wracać. To, powiadam ci, będzie najmądrzejsze.

– Czego ci się tak śpieszy? Masz przecie czas do dwunastego. Niech tylko pociepleje! Zobaczysz, jak u nas pójdzie na morzu! Jutro ruszamy za wszystkimi do twierdzy i Ermitażu...

### Szkodnictwo ideologiczne

– Kim wy jesteście, towarzysze? – spytała nas przewodniczka w westibulu Ermitaża?

– Jesteśmy premiowanymi „udarnikami"[1] z fabryk moskiewskich – przedstawiło się sześciu robociarzy.

– Jesteśmy „służaszczymi"[2] z Moskwy – odpowiedziało pozostałych czworo uczestników wycieczki z Domu Turysty.

– Aha, to bardzo dobrze. Zaznajomienie się z Ermitażem rozpoczniemy, towarzysze od sztuki epoki feudalnej – rzekła i rozpoczęła krótkim wstępem, oświadczając iż ten jeden z najbogatszych na świecie zbiorów dzieł sztuki zachodnioeuropejskiej, został założony przez Katarzynę II, a wzbogacony przez dalszych carów i rewolucję, która „uzupełniła go najcenniejszymi obrazami ze znacjonalizowanych zbiorów".

Z tymi słowy wprowadziła nas do jednej z sal. Rozejrzałem się po niej. Na ścianach wisiały piękne, lecz pozbawione perspektywy obrazy średniowieczne i nowoczesne plany i rysunki zamków i ich wnętrz. Te nowoczesne rysunki nie pasowały całkiem do barwnych obrazów średniowiecznych i od pierwszego spojrzenia raziły nieprzyjemnie wzrok. W gablotach zaś poustawiane były szkatuły, kielichy, monstrancje i inne przepiękne wyroby artystyczne owej epoki.

*„Kurier Wileński" nr 42, 12.02.1938 r., s. 5*

[1]Szturmowcami. Teraz by nazwali siebie stachanowcami.

[2]Pod określenie „służaszczych" podpadają w ZSRR wszyscy pracownicy umysłowi: inżynierowie, nauczyciele, urzędnicy itp.

*Cdn*

# Echa Ostoi Utraconej

***Eugeniusz Czyżewski***

***45.*** Alek Kędziorek wojną coś tam z partyzantką sowiecką miał – teraz tak mówi, bo przecież tylko osiemnaście lat liczył, jak ta partyzantka się wyniosła. Włodek Parobek w wojsku tak władzę polubił, że w jej obronie staje. Obydwaj tak polityką napompowani, że aż dziw, że ona w nich w takim wymiarze wlazła. Bronek Bandyta z jego siostrą ożenił się. Właśnie ten Bronek od Nieznanych, co z karabinem dziesięciostrzałowym na warcie przy szkole stał, gdy grupa księdza przedstawienie robiła. Bronek teraz gajowy i jakby urzędnik tej władzy, którą niedawno zbrojnie zwalczał. Szwagrowie jeden czerwony Bezpieczniak, a drugi biały razem przy stole wódkę piją. Włodka gdzieś tam za Białystok posłano, ale Alek tu się kręci, w Sokółce jest i to też nie jest dobre, bo może powywlekać sprawy wsi do wiadomości ludzi obcych. Wieś władzę sowiecką i niemiecką zwarta przeżyła, bez donosicielstwa. Sowieccy milicjanci, a przecież było ich kilku, wsi nie ruszyli. Niemieccy policaje też nie i nawet ten łajdak sołtys niemiecki do obozu na zagładę wysłał ludzi przez własny idiotyzm. Wieś Nieznani i Przybysze rozrobili i od nich krzywda była, a wina wieśniaków w tym, że obcym o sprawach wsi mówili. Praporszczyk Baj mówi, że swój w policji politycznej nie jest już swoim, ale jego siostrzenicę Alek za żonę bierze i teraz miastową ona jest i też jakby już inna. Obcych ludzi pełno tu było może i konspiratorów groźnych, których dopiero teraz Bezpieka poznała i gospodarza, gdzie siedzibę miał, wspólnikiem robić mogą. Rewolucja swoje prawa stanowi, kto wie, jakie te prawa są. Strażnica z miasteczka ludziom dokucza, wieczorami patrole ludzi zatrzymują, dokumentów żądają, a dokumenty tylko niemieckie są, a młodzież żadnych nie posiada. Żołnierz prawa nie zna i nie rozumie, że krzywdzi. Młody jest i władzę swą okazuje, dopóki tu Nieznany był, to strażnica cicho siedziała. Wieś człowieka z karabinem od lat pozbyć się nie może, a i polityka ciągle ją przygniata. Z wojska wrócił partyjny Zyga Malinka. Należy do tej partii, co teraz władzę ma, więc Zyga posadę w gminie otrzymał i teraz w sprawie dostaw kontyngentu działa. Pije u chłopów i stawianie wódki wymusza. Działa tak jak w czasach, gdy samogon dla podziemia organizował. Różnica ta, że poprzednio Nieznanymi straszył, a teraz o uprawie gruntów nieopodatkowanych mówi. Postępuje brzydko i za łajdaka go ludzie mają, a taki każdą podłość zrobić może, więc poją i wódkę dają, przecie też nielegalną, bo zakaz robienia samogonu władza dała.

Rocznik 1928 do wojsk granicznych zabrano i gdzieś tam nad morzem są, to dobrze, bo tam jest spokojnie. Listy od nich nie pachną polem bitwy, chociaż na brak snu wszyscy się żalą. Przez wiele lat na granicę będą szły kolejne roczniki, to podobno przez tego Alka Kędziorka z bezpieki. Chwalił się gdzieś, że on opiniuje rekrutów na granicę, nikt mu za to wdzięczny nie jest, bo to ciężka służba. Żołnierz w koszarach noc spokojną ma, a tu nocy dla snu nie

ma. Chłopaki z 1928 rocznika aż trzydzieści sześć miesięcy granicę deptali. Wielu awansowano do stopni podoficerskich, a Jaugien od Bajów gwiazdę oficerską złapał. Tak się działo, bo gdzieś tam na końcu świata w Korei czerwoni z białymi działali i wojna w Europie na włosku wisiała, bo Ameryka tam białym pomaga, a Sowieci czerwonym. Malinka mówi, że on też jako cywil na oficera politycznego awansował, bo partia z gminy go zarekomendowała. Wątpią ludzie czy to prawda, bo przecie do rozumu nie przyznaje, a może władza nie wie, jaki to drań. Mówią też, że Malinka Czarnego do partii zapisał i jakąś mu pracę w miasteczku załatwił. Czarny jeszcze niedawno przeciwko władzy był. Nie pasuje to wszystko do siebie, a może wieś za mało wie. Przedwojenni konspiratorzy wyginęli albo po świecie się rozeszli. Najmłodszy Chomiel tylko we wsi siedzi i do niego jacyś partyjni przyjechali, by do partii wstąpił i kołchoz organizował. Mówili coś o miotle, która chociaż z gałązek zrobiona, złamać się nie da. Chomiel im powiedział, że ta miotła w szybkim czasie ze wsi chleb wymiecie i niech Malinka im tą miotłą robi. Tak to Chomiel ostatecznie politykować przestał. Przez politykowanie przykrości zaznał wiele, bo i na kozłach posterunku policji razy zbierał, i z sowiecką milicją na wschód uchodził. Więzienie niemieckie poznał, lufę pistoletu Nieznanego, a teraz gdy demokraci rządzili, on od nich się odwrócił. Przez wiele lat dążył do jakiejś sprawiedliwości, ale widocznie jej nie znalazł.

Malinka zebranie wsi na temat powołania kołchozu we wsi zorganizował, coś tam mówił, nikt go nie usłuchał i kołchoz nie powstał. Młodzieży we wsi coraz mniej. Dwóch Żmudzinów na granicy służyło, dziewczęta poznali i teraz teściowe im gospodarki szykują, bo podobno tam jeszcze wolne zagrody stoją, częściowo rozszabrowane. Wychodzi z tego, że poprzez służbę miejsce w świecie znaleźli, bo sami by tam nigdy nie trafili.

Witek Jedynak z wojska wrócił i zaraz do Bezpieki wstąpił. Trzeci to już policjant polityczny. Iść nie musiał, bo gospodarka jedna z lepszych we wsi, a rodzeństwo to dziewuchy, które ludzie zabiorą, bo ładne są. Dwóch synów Koralika do milicji wstąpiło, ale obydwaj w Białymstoku służbę mają. Sprawę sołtysa niemieckiego wszczęto, on już w więzieniu siedzi za kolaborację z niemiecką władzą, z czego zbrodnia ludobójstwa wyrosła. Wywiadowcy po wsi chodzą, ludzi przesłuchują, jak ten sołtys tu za okupacji się panoszył. Gospodarze niechętnie coś złego o nim mówią, było minęło, śmierci zesłanych do obozu ukryć się nie da. Rodzina Chomielów i Alek Baj zeznają, że sołtys list o ratunek rodziny podpisał, gdy z Gestapo ją wyciągano. Alek list do kochanki Willego woził i jakby głównym świadkiem obrony jest. Sołtys tylko pięć lat więzienia dostał, choć prokurator piętnaście żądał. Tak to jeden podpis o dziesięć lat złagodził.

Sądzą też Kazka Chłodnego za zastrzelenie partyzanta sowieckiego, za służbę dla Niemca i za lincz nad bratankiem. W sprawie linczu całą wieś słuchają, ale nikt nie pamięta, tylko niektórzy poplątali się w zeznaniach i Kazkowi dołożyli. On też pięć lat dostał, bo tak ostatecznie to mu nic nie udowodniono, za wyjątkiem tego, że policajem był, ale trafił tam nie z woli własnej. Tak się jednak jakoś stało, że i inne polityczne śledztwo wytoczono. Czterech mężczyzn na serwitucie na kołchozy pluło, w tym Żmudzin, co do Armii Czerwonej w Gdyni trafił. Bezpieka całą czwórkę słucha, lecz skąd ona to wie. Nienawiść wśród sąsiadów zasiano. Szczęściem coś tam w Warszawie pozmieniało się i do sprawy karnej nie doszło, ale zgrzyt pozostał. Głupie postępowanie Bezpieki aż na łąkę wlazło i zło wieś nawiedziło. Żmudzin w kilka miesięcy później na gruźlicę zmarł, a tuż po nim i Puszczek, i Koralik, tego się w Armii Czerwonej dorobili. Sen na ziemi mokrej, zimnej, zamarzniętej, gdy nawet posłania z gałęzi nie było, a przy tym w ubraniu też mokrym, nieleczone zapalenia płuc, pozycje bez okopów, przypadkowe w ruchu ciągłym, gdzieś w polu, powodowało, że stale rdzą się pokrywała, a jak w takich warunkach człowiek mógł zdrowy pozostać.

Julek od Rozstaja ze służby na granicy też gruźlicę przyniósł i też wkrótce zmarł. On gdzieś na zasadzkach przemarzł i z chorobą do służby był pędzony, aż padł.

W Warszawie teraz jakiś Ochab rządzi, bo Bierut umarł. Władca ten obowiązek dostaw mleka zlikwidował, dobre i to. Stary August mówi, że do całkowitej likwidacji dostaw obowiązkowych trzech by umrzeć musiało. Mylił się, następca Ochaba, Gomułka, za swego panowania kontyngenty zlikwidował. On też ostatecznie zrezygnował z zapędzania wsi w kołchozy – Spółdzielniami Produkcyjnymi zwane. Skup produktów wiejskich dobrze zorganizowano i biorą wszystko, co ziemia rodzi i inwentarz z martwym włącznie. Padliną już nie pożywi się ani wilk, ani kruk stary. Kiedyś tam pod Sokolą Górą takie cmentarzysko padliny zrobiono i koń stary, świnia która od zarazy padła tam trafiały. To wilka i kruka stołówka, teraz obydwaj na zagrodę chłopską patrzą. Wilk po owce i psy przychodzi, a kruk wobec kur gawrona udaje i znienacka ję atakuje. Gospodarstw ciągle ubywa, chłopak do gospodarstwa żony znaleźć nie może. Dziewczęta też w Białystok poszły, tam w tekstylnym przemyśle pracują. Zięciowie z dalekich stron, tak że i swata się nie zna. Odłogi na polach, ziemia wartość utraciła. Prawo takie dali, że można ziemię za emeryturę państwu oddać. Starzy gospodarze są chętni, ale zdać można tylko tyle, za ile hektarów podatek się płaciło. Chytrość z utajeniem stanu posiadania teraz bokiem wyłazi. Wysokość emerytury zdane hektary wyznaczają. Resztę ziemi jakby darmowo oddać trzeba, a to już nie jest ani łatwe, ani proste. Odłogi przez komasację państwo likwiduje. Chłopom działki mierzy, ale tylko tym, co państwu jej nie oddają. Resztę ziemi gospodarstwo państwowe bierze i lasy państwowe. Ziemię swą własną gospodarze od państwa kupują, tą za która podatku nie płacili, bo jaki to go-

spodarz na kilku hektarach. Mówią, podatek za wszystkie lata zapłacili i państwo na swoje wyszło.

Alek Baj działki nie bierze, zdał ziemię, gospodarzyć już nie będzie. Chory jest, a synowie w Polskę poszli i w miastach żyją.

Praporszczyk Baj swoją ziemię dawno sprzedał wraz z domem, który mu po podziale z Alkiem na własność przypadł, teraz w Białymstoku mieszka.

Ród Bajów we wsi istnieć przestał, gdy jeszcze w czasie komasacji Alek zmarł, a żona zagrodę sprzedała i zabudowania do innych wsi wywieziono. Ostoja rodu istnieć przestała. Niech więc te wspomnienia namiastką tamtych scen będą. Głuche one są i niepachnące. Ptak tu nie śpiewa, sad nie kwitnie, ziemia nie paruje, zboże nie pyli, nie błyszczą owoce, brak brzęku pszczół i owadów, jaskółek nad oknami, potu i śnieżnych zamieci.

Wszystkiego tu brak. Jest jednak nostalgia do stron rodzinnych, żal dni minionych. Były takie jakie były – piękne były.

KONIEC ■

# *Успаміны з 1982 г.*

Як я пісаў у сваіх успамінах з 1981 г., 13 снежня 1981 г. улады Польшчы ўвялі ваеннае становішча, выключылі ў кватэрах усе тэлефоны, ноччу без афіцыйнага пропуска на паперы нельга было хадзіць па вуліцах Варшавы. Каб паехаць у Беласток да дачкі, трэба было атрымаць дазвол на паперы, Трэба было пісаць просьбу, ісці з ёй у Раённы Савет, стаяць там у чарзе. На вакзале ў Беластоку, калі выходзіў я з жонкай з цягніка, ваенныя дамагаліся каб паказаць дазвол на прыезд.

Усе пісьмы, якія прыходзілі тады да мяне і з замежжа, і мясцовыя мелі пячатку і паметку, што іх адкрывала і праглядала цэнзура.

Сын запрасіў на сустрэчу Новага 1982 г. сваіх сяброў і сябровак, а я з жонкаю сустракалі тады Новы год у суседнім доме на кватэры ў Сахацкіх. Чакалі мы там да 6-ай гадзіны ранкам, калі можна было хадзіць па вуліцах.

Працаваў я нармальна ў „Энергапраекце” і праектаваў электрычную частку электрастанцыі на буры вугаль у Белхатаве, першы блок якой магутнасці 380 мегаватаў пачаў даваць электраэнергію ў электрычную дзяржаўную сетку 29 снежня 1981 г. Праектаваў я наступныя энергетычныя блокі гэтай электрастанцыі і амаль кожны тыдзень машынай „Энергапраекта” ездзіў я з другімі працаўнікамі бюро на некалькі гадзін туды. Ехалі мы ў Белхатаў ранкам і вярталіся дамоў пад вечар.

1 студзеня ўлады абвесцілі, што ў сувязі з забастоўкамі „Салідарнасці” нацыянальны даход у дзяржаве ў 1981 годзе паменшыўся на 13 %.

2 студзеня ўлады развязалі Саюз Артыстаў Польскіх Сцэн (ZASP), а 6 студзеня – Незалежны Саюз Студэнтаў (NZS) і дазволілі ўводзіць вучобу на вышэйшых навучальных установах.

10 студзеня ўключылі гарадскія тэлефоны, а міжгарадскую тэлефонную сувязь кантралявалі. У тэлефоне інфармавалі, што размову падслухоўваюць. 10 студзеня рака Вісла ля Плоцка прарвала валы і затапіла частку горада і блізкія вёскі.

12 студзеня я з жонкаю паехаў у Беласток, бо там наша дачка Ірэна 15 студзеня ў бальніцы нарадзіла сына, якому далі пасля імя Лука.

13 студзеня ў Вашынгтоне самалёт Боінг 737 лініі Фларыда ўпаў у раку Патамак, раней зачапіўшыся за мост і пацягнуўшы за сабой некалькі аўтамашын. Згінула 78 асоб, а 6 асоб ураталі.

17 студзеня пачаў працаваць у Варшаве Вялікі Тэатр.

20 студзеня Гарнізонная Пракуратура ў Глівіцах ануліравала следства ў справе смерці 9 шахцёраў у шахце „Вуек”, якія 16 снежня 1981 г. згінулі ад куль міліцыі.

25 студзеня сейм зацвердзіў усе дэкрэты ўвядзення ваеннага становішча з 13 снежня 1981 г., а 26 студзеня прыняў да рэалізацыі Карту Настаўніка.

30 студзеня ў Гданьску ў хваляваннях на вуліцах было параненых 6 асоб.

1 лютага ўлады ў Польшчы павысілі цэны на спажывецкія прадукты на 241%, на энергію на 171 % і ўвялі рэкампенсацыі ўсіх заробкаў. Мне тады павысілі аснаўны месячны заробак з 6 тысяч зл. на 9 800 зл. Прэмію далей атрымоўваў 100-110 % ад аснаўнога заробку. Многія спажывецкія і іншыя тавары прадавалі тады ў магазінах толькі на картачкі.

У суботу 6 лютага паехаў я з жонкай і сынам у Беласток на хрост унука Лукі, які прайшоў 7 лютага на кватэры Валянціна Пацэвіча і маёй дачкі Ірэны. Мой сын Георгій быў бацькам хросным, а Яўгенія Чарняўская, дачка сястры бацькі Валянціна Пацэвіча, была хроснай маткай, а хрысціў унука Беластоцкі і Гданьскі Епіскап Сава, які сёння з'яўляецца мітрапалітам Польшчы. Было многа гасцей з бацькамі Валянціна. Пасля хросту Лукі быў прыём гасцей на хрэсьбінах разам з епіскапам Савай. Там прыйшлося нам пераначаваць і толькі ў аўторак 9 лютага вярнуліся мы ў Варшаву.

Лука Пацэвіч, які ў 2005 г. закончыў Беластоцкую Палітэхніку і атрымаў дыплом магістра інжынера, пасля працы ў будаўнічай фірме ў Варшаве і іншых гарадах

Польшчы, цяпер памагае бацьку кіраваць Многагалінавым Прадпрыемствам „Трансбуд” і Гарадскім Прадпрыемствм Ачысткі( МПО).

У 2011 г. Лука Пацэвіч узяў у царкве св. Духа ў Беластоку шлюб з Эдытай Мядушэўскай, якая змяніла веравызнанне з каталіцкага на праваслаўнае, а ў 2012 г. ад прэзідэнта Польшчы Б. Камароўскага яна атрымала намінацыю на суддзю.

9 лютага ў катастрофе японскага самалёта Дугласа ДЦ-8 згінула 24 пасажыры.



**Свінавуйсце. Дзмітрый і Ніна Шатыловічы на бульвары**

Ад 12 да 19 лютага папа рымскі Ян Павел II, першы раз пасля замаху на яго жыццё 13 мая 1981 г., быў з візітам у Афрыцы, в Нігерыі, Беніне і Гвінеі.

13 лютага дзяржава рашыла збудаваць у Варшаве першую лінію метро з поўдня на поўнач, злучыць Кабаты з Млацінамі, будова закончылася 28 кастрычніка 2008 г.

15 лютага ля берагоў Ньюфаунленда затанула нафтавая платформа „Акіян Ранджэр”, на якой згінула 84 працаўнікоў.

19 лютага з прыватным візітам прыехаў у Польшчу кіраўнік заходненямецкай партыі СПД Герберт Вейнер і сустрэўся з Войцехам Ярузельскім і з епіскапамі.

23 лютага 53% жыхараў Грэнландыі прагаласавала ў рэферэндуме, каб выступіць з Еўрасаюза. У 1985 г. Грэнландыя пакінула Еўрасаюз.

24-25 лютага прайшоў VII Пленум ЦК ПАРП, на якім В.Ярузельскі выступіў з дакладам Палітычнага Бюро ПАРП пад назвай „Задачы ПАРП у барацьбе за адзінства партыі і ўмацаванне народнай улады і аб поўнай падтрымцы сацыялізму”. Пленум зацвердзіў ацэнку сітуацыі і накірункі дзеяння прадстаўленыя ў дакладзе і абавязаў Дэпутацкі Клуб ПАРП унесці ў Сэйм праект пастановы аб пакліканні Сацыяльна-Эканамічнага Савета і стварэння моцнага прафсаюзнага руху сярод рабочых. В. Ярузельскі выступіў таксама супраць фракцыйнай дзейнасці ў партыі.

1 сакавіка ліквідавалі абмежаванні ў падарожжы па Польшчы. Ужо я не мусіў стаяць у чарзе, каб атрымаць пропуск у Беласток.

1-2 сакавіка В. Ярузельскі паехаў з візітам у Маскву, дзе пахвалілі яго за ўвядзенне ваеннага становішча ў Польшчы.

З 1 сакавіка пачала друкавацца зноў у Беластоку беларуская газета „Ніва”, якую можна было лёгка купіць у Варшаве. А цяпер яе ў Варшаве не прадаюць.

5 сакавіка савецкі зонд Венера 14 сеў на планету Венеру, там працаваў ён 57 мінут пры тэмпературы 465 ° С і ціску 94 зямных атмасфер. Пераслаў ён на Зямлю панараму Венеры і хімічы састаў грунта ў месцы прычальвання.

19 сакавіка аргенцінскае войска заняло Паўднёвую Георгію на Фолклендах-Мальвінах, а 2 красавіка 800 аргенцінскіх салдатаў занялі астравы архіпелагу Фолкленды. Пачалася аргенцінска-англійская вайна.

20 сакавіка прэзідэнт Варшавы распусціў Таварыства Польскіх Журналістаў і потым хутка стварылі Таварыства Журналістаў ПНР.

26 сакавіка Сейм Польшчы стварыў Канстытуцыйны Суд і Дзяржаўны Трыбунал (Trybunał Stanu).

29 сакавіка ўключылі міжнародную тэлефонную сувязь.

25 красавіка Ізраіль вярнуў Егіпту паўвостраў Сінай, які заняў у 1967 г., а англійскія салдаты адбілі ад Аргенціны востраў Паўднёвую Георгію на Фолклендах.

26 сакавіка паўднёвакарэйскі салдат застраліў у амоку 57 асоб, а раніў 35, а потым застраліўся.

28 красавіка ўлады Польшчы выпусцілі на свабоду тысячу асоб інтэрніраваных 13 снежня 1981 г..

30 сакавіка ў польскім самалёце 8 выкрадальнікаў змусілілі пілотаў ляцець у Заходні Берлін і там многа пасажыраў самалёта папрасіла права на пристанішча.

2 мая англійская атамная падводная лодка Конкерэр (HMS „Conqueror”) затапіла аргенцінскі крэйсер АРА Генерал Бельгано, дзе згінула 368 аргенцінскіх матросаў, а 4 мая аргенцінцы затапілі англійскі эсмінец Шэфільд( HMS Sheffield), дзе згінула дваццаць англійскіх матросаў.

3 мая на вуліцах Варшавы міліцыя затрымала ў нелегальных дэманстрацыях 271 асоб, 51 міліцыянераў было параненых.

У маі прыехала да нас у Варшаву з Беластока дачка Ірэна з сынам Лукой. Прыехала з дзіцячым вазком і ездзіла з сынам часта ў Лазенкі і сустракалася са сваймі школьнымі сяброўкамі. Была ў нас 2 тыдні і пасля вярнулася ў Беласток.

У сувязі з тым, што ў Польшчу не прыязджалі экскурсіі з замежжа і з Польшчы не выязджалі нідзе польскія экскуріі, мы спачатку ездзілі толькі да дачкі ў Беласток, а з Беластока да дачкі маёй сястры ў Бельск-Падляшскі, да Лідкі Семянюк і на станцыю Чаромху да Ніны Леўчук, і да маёй сястры ў вёску Чаромху.

Ад 13 да 16 мая з ініцыятывы Мікалая Бушко і а. Мікалая Нігярэвіча, і а. Юрыя Шурбака з Варшавы пры блаславенні мітрапаліта Польшчы Васілія прайшлі ,,Дні царкоўнай музыкі” ў царкве св.Мікалая ў Гайнаўцы, якія выклікалі вялікае зацікаўленне грамадскасці іператварыліся ў штогадавы дзяржаўны, а пасля ў міжнародны конкурс царкоўнай музыкі. Тады брала ў ім удзел толькі восем царкоўных хароў з Падляшша і калектыў царкоўнай музыкі камернай оперы Юрыя Шурбака з Варшавы.

13 мая СССР выслаў пілатаваны касмічны карабель Саюз Т-5 з касманаўтамі Анатоліем Беразавым і Валянцінам Лебедзевым, якія прыстыкаваліся да касмічнай станцыі Салют 7 і правялі там даўжэй чым 211 сутак. Вярнуліся яны на Зямлю10 снежня 1982 г. Сустракалі яны там касманаўтаў з касмічнага карабля Саюза Т-6 і касманаўтку Святлану Савіцкую, якая прылящела на касмічным караблі Саюз Т-7.

21 мая першыя вялікія атрады англійскіх салдат выйшлі на Фолкледах бліз порта Сан Карласа, а 25 мая аргенцінскія самалёты затапілі англійскі ракетны эсмінец ГМС Кавентры.

28 мая рымскі папа Ян Павел II паляцеў з візітам у Англію. Быў там да 2 чэрвеня.

7 чэрвеня між Польшчай і СССР была падпісаная дамова аб супрацоўніцтве пры будове лініі метро ў Варшаве. СССР абавязаўся і даў Польшчы бясплатна 90 вагонаў для метро ў Варшаве.

8 чэрвеня В. Ярузельскі сустрэўся на Крыме з генеральным сакратаром ЦК КПСС Леанідам Брэжневым.

8 чэрвеня ў Бразіліі ў катастрофе Боінга-727 згінула 137 асоб.

14 чэрвеня англійскія салдаты адбілі Фолкленды з рук аргенцінцаў. і ў сувязі з тым ген. Леапольда Гальціеры перастаў быць прэзідэнтам Аргенціны. Прэзідэнтам Аргенціны стаў генерал Альфрэдэ Сен Жан.У вайне за Фолкленды згігула 255 брытанцаў і 652 аргенцінцаў.

24 чэрвеня СССР выслаў у космас касмічны карабель Саюз Т-6 з касманаўтамі Уладзімірам Джэнібекавым, Аляксандрам Іванчэнкавым і першым французскім касманаўтам Крэт’енам Жан Лу Жакам Мары (Chretien Jean Loup Jacques Marie). Карабель прыстыкаваўся да касмічнай станцыі Салют 7, дзе былі касманаўты А. Беразавы і В. Лебедзеў і разам з імі працавалі да 2 ліпеня, і самі вярнуліся на Зямлю 2 ліпеня.

4 ліпеня паднеслі сцяг на новым польскім школьным парусніку ,,Дар Памор’я”.

6 ліпеня ў Маскве ў катастрофе самалёта ІЛ-62 згінула 90 асоб.

8 ліпеня ў Іраку быў неўдалы замах на прэзідэнта Садама Гусейна ў шыіцкім горадзе Дуджаіл.У помсце салдаты зрабілі крывавую расправу над жыхарамі горада.

9 ліпеня ў Луізіяне (ЗША) у катастрофе самалёта Боінга 727 згінула 153 асобы.

13 ліпеня ў іранска-іракскай вайне іранская армія ўвайшла на тэрыторыю Ірака і яе там затрымалі.

29 ліпеня СССР сцягнуў з космаса на Зямлю касмічную станцыю Салют 6.

У жніўні ў Свінавусці пачаў працаваць дом адпачынку ,,Энергетыка” і ,,Энергапраект” і я выкупіў у маім бюро для сябе і для жонкі два месцы ад 2 да 15 жніўня. Паехалі мы туды спальным вагонам. Людзей там тады не было многа. Жылі мы ў доме ,,Энергапраекта”, а сталаваліся ў доме ,,Энергетыка”. У ГДР, як за Э. Герка, нельга было прайсці, экскурсій у другія месцы і гарады яшчэ не арганізавалі. Маглі мы толькі загараць над морам, купацца ў моры і хадзіць па горадзе, па пляжы і ў лес. Час прайшоў спакойна і спальным вагонам вярнуліся мы дамоў.

19 жніўня на касмічным караблі Саюз Т-7 другая па Валянціне Церашковай савецкая касманаўтка Святлана Савіцкая вылецела ў космас і прыстыкавалася да касмічнай станцыі Салют 7, выходзіла яна ў адкрыты космас і вярнулася на Зямлю 29 жніўня.

31 жніўня ва многіх гарадах Польшчы прайшлі нелегальныя дэманстрацыі, у Любліне ад куль ЗОМО згінула тры асобы.

11 верасня ў катастрофе амерыканскага самалёта ЦГ-47 згінула пад Мангаймам 46 асоб.

8 кастрычніка польскі сейм прыняў закон аб прафсаюзах і аб’явіў па-за законам прафсаюз ,,Салідаргасць”.

10 кастрычніка ЗША ўвялі эканамічныя санкцыі для Польшчы.

13 кастрычніка падчас нелегальнай дэманстрацыі ў Новай Гуце застралілі рабочага Багдана Улосіка.

31 кастрычніка рымскі папа Ян Павел II прыляцеў з візітам у Іспанію. Быў там 10 дзён, да 9 лістапада.

10 лістапада памёр у СССР генеральны сакратар ЦК КПСС Л.Брэжнеў (1906-1982) і 12 лістапада на яго месца выбралі Юрыя Андропава (1914-1984).

11 лістапада у Ціры ў Ліване ад бомбы ліванскага смяротніка быў разбураны 8-павярховы ізраільскі штаб. Згінула больш як 100 асоб.

12 лістапада ў Польшчы выпусцілі дамоў з інтэрніравання Леха Валенсу, які вярнуўся ў Гданьск.

З 28/29 лістапада ад выбуху пылу ў шахце КВК ,,Дзімітраў” ў Бытаме згінула 18 асоб.

29 лістапада выпусцілі з інтэрніравання 327 асоб.

13 снежня ад землятрусу ў Емене гіне 2 тысячы 800 людзей.

31 снежня Рада Дзяржавы Польшчы прыпыніла ваеннае становішча ў дзяржаве і выпусцілі з інтэрніравання ўсіх людзей. Ваеннае становішча ў Польшчы закончылася 22 ліпеня 1983 г.

**Дзмітры Шатыловіч**

*(Працяг будзе)*

